*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 21 (129) ◈ 26 траўня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



### ЗАЯВА
### Выканкама Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады

*Выканкам ЦР адзначае, што палітыка Урада Рэспублікі Беларусь, якая ў апошні час накіравана на павелічэнне знешняга доўгу і адмову ад бязвыплатнай прыватызацыі, вядзе да далейшага збяднення насельніцтва і перакладае вынікі пралікаў Урада на плечы простых людзей, якія не толькі застануцца без уласнасці, але і трапяць у даўжнікі па сумніцельных валютных аперацыях.*

*У сувязі з гэтым выканкам ЦР БСДГ лічыць неабходным:*

*1. У кароткі тэрмін правесці незалежную экспертызу ўсіх валютных праектаў Урада.*

*2. На чарговай сесіі Вярхоўнага Савета паставіць пытанне аб рэалізацыі Урадам зацверджанай вышэйшым заканадаўчым органам улады канцэпцыі прыватызацыі, згодна з якой 50 працэнтаў прыватызуемай уласнасці павінна быць перададзена грамадзянам бясплатна.*

*Выканкам ЦР БСДГ.*
*13 мая 1993 года.*

*Але!*

### *Добра мець бацьку ў Вярхоўным Савеце*

Аказваецца, у спадара Аляксандра Лукашэнкі, старшыні калгаса са Шклоўшчыны, сямейная праблема: сын дрэнна вучыў беларускую мову. Ну, а цяпер баіцца, што на ўступных экзаменах у інстытут атрымае па ёй невысокую адзнаку і не пройдзе па конкурсу. Вядома, шэраговы бацька, пасумаваўшы (не кожны ж марыць, каб нашчадак працаваў, скажам, трактарыстам на сацыялістычных калгасных гонях), проста параіў бы сыну ці сесці ды як след павучыць тую мову, ці набыць нейкую рабочую спецыяльнасць. Але Аляксандр Лукашэнка — яшчэ і народны дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі. А таму дапамагчы бядзе ўласнага сына вырашыў дзяржаўным шляхам — адпаведным запісам у Канстытуцыі. Сын ведае лепш расійскую мову? Вось і зрабіць яе дзяржаўнай! І ніякіх там экзаменаў па іншай, асабліва беларускай. Усё для роднага дзіцяці! А што разбураецца нацыянальная еднасць народа, не бяда.

Не хвалюе тое і аднаго з лідэраў слаўнай дэпутацкай групы ад ветэранскай арганізацыі спадара Геца. Спадару Гецу пад выглядам інтэрнацыяналізацыі (чамусьці з дапамогай русіфікацыі) Беларусі хочацца зрабіць з яе нешта блізкаўсходняе, накшталт Лівана, мусіць.

Шкада, што дэбаты ў Вярхоўным Савеце пра дзяржаўнасць беларускай мовы 20 траўня наша слаўнае тэлебачанне чамусьці адважылася паказаць толькі апоўначы. Пашкадавалі нервы тэлеглядачоў ці тут больш стратэгічная задума?

Л. М.

*З УДЗЕЛАМ 12 КРАІН ДАЛЁКАГА І БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА ў Менску працуе I рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Дзіцячы сад: сёння і заўтра».*

◆

*У ПАЛАЦЫ МАСТАЦТВАЎ працуе выстава жывапісу з Беласточчыны Лявона Тарасэвіча.*

## Не варта раз'ядноўваць нацыю і ганьбаваць Беларусь на ўвесь свет

У Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь працягваюць паступаць лісты грамадзян, сур'ёзна занепакоеных тым, што народныя дэпутаты з ліку былых кампартыйцаў выношваюць планы якім-небудзь чынам навязаць Беларусі дзяржаўнае двухмоўе. У лісце, які паступіў у ВС з Камянецкага раёна, побач з прозвішчамі ўказаны і хатнія адрасы. Хто напісаў па-беларуску, а хто і па-руску, але людзі адзіныя ў галоўным: перайначваць Закон аб мовах і ўводзіць двухмоўе не на карысць адзінству нацыі. І чаму тады, заяўляюць жыхары Камянеччыны, гэтак узносіць толькі рускую. З нацыянальных меншасцей на Беларусі ж, акрамя рускіх, жыве шмат украінцаў, палякаў ды іншых народаў. А палякі ўжо заявілі, што калі будзе аб'яўлена дзяржаўнай і руская мова, будуць патрабаваць такога ж становішча для польскай... Але гэта канчаткова загубіла б не толькі беларускасць, а і падарвала ўвогуле дзяржаўную незалежнасць. Між тым, ніхто, — адзначаецца ў лісце, — акрамя асобных груповак, не супраць, каб была адна дзяржаўная мова — беларуская (пры моўных правах на карыстанне ўсімі астатнімі). Ды беларуская мова і найбольш зразумелая ўсім нацыянальным меншасцям на Беларусі.

Ліст падпісалі І. Жытко, К. Жарко, Г. Парафянюк (в. Камянец), Я. Кунц, Л. Самко (в. Ходасы), Т. Пурачэўская, Т. Шыбко, А. Буханава (в. Змітровічы), В. Грачанік (в. Макавішча), В. Мартысевіч, В. Краўчук (в. Камянюкі) і іншыя, усяго 49 подпісаў.

Нататкі з выставы «Беларуская кніга-92»

## Кніжны рынак — люстэрка грамадства

Такая выстава працавала 3—8 траўня ў сталічным Доме кнігі. Ужо першае знаёмства з выставай пераканала: яна якасна адрозніваецца ад падобных публічных справаздач нашых выдавецтваў, якія праводзіліся ў Менску раней. Па-першае, тут дэманстравалася амаль уся кніжная прадукцыя, выпушчаная дзяржаўнымі беларускімі выдавецтвамі летась. Па-другое, упершыню на такім высокім узроўні былі прадстаўлены кнігі, выпуск якіх у мінулым годзе ажыццявілі недзяржаўныя выдавецтвы рэспублікі. Падкрэслім таксама, што ў дні работы выставы гасцей чакалі іншыя навацыі. Так, тут рэгулярна адбываліся прэзентацыі кніг, якія выклікалі ў чытачоў асаблівую цікавасць, сустрэчы з іх аўтарамі. А выдавецтва «Мастацкая літаратура» за свае лепшыя мінулагоднія кнігі непасрэдна ў экспазіцыі ўручыла лаўрэатам дыпломы і прэміі. Наведвальнікаў выставы гасцінна сустракалі, давалі ім разгорнутыя адказы на пытанні кіраўнікі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, супрацоўнікі Нацыянальнай кніжнай палаты і выдавецтваў. З мэтай сацыялагічнага аналізу грамадскай думкі наконт сучаснага стану і перспектыў выдавецкай справы ў рэспубліцы тут праводзілася анкетнае апытанне наведвальнікаў.

Адразу адзначым, што густоўна скампанаваная на невялікай дэманстрацыйнай плошчы, маляўніча афармленая экспазіцыя проста ўражвала багаццем: сапраўднае кніжнае мора, ад разнаколерных вокладак якога стракацела ў вачах. І гэта — ва ўмовах эканамічнага крызісу, пры дэфіцыце паперы, пры абмежаванай, далёкай ад патрабаванняў сучаснасці вытворчай паліграфічнай базе, пры татальным недахопе сродкаў літаральна на ўсё.

Але ж галоўная, бадай, адметнасць кнігавыдавецкай справы найперш у тым, што яна заўжды з'яўлялася дакладным барометрам духоўнага стану грамадства. Таму натуральна, што грамадскае абуджэнне, якое пачалося з дэмантажу таталітарнай камуністычнай імперыі, аказала вызначальны ўплыў на дзейнасць выдавецтваў рэспублікі. Менавіта гэта шматгранна і дэманстравалася на выставе. Як жа задавальняюць нашы выдавецтвы, па-

*Заканчэнне на с. 3.*




*27 ТРАЎНЯ У ГАРОДНІ пройдзе канферэнцыя па стварэнні абласной арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.*

◆

*КАЛІ ВЫ ЗА АДРАДЖЭННЕ І ЯШЧЭ НЕ ПАДПІСАЛІСЯ НА «НАША СЛОВА», ТО СПЯШАЙЦЕСЯ — ДА КАНЦА ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ ЗАСТАУСЯ УСЯГО ТЫДЗЕНЬ.*

◆

*У МЕНСКУ СТВОРАНА БЕЛАРУСКАЯ КАНФЕДЭРАЦЫЯ ПРАМЫСЛАВІКОЎ І ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ.*

◆

*У спецыяльных праграмах радыё і тэлебачання зноў загучаць музычныя творы, якія прэтэндуюць стаць нацыянальным гімнам Беларусі.*

 

У суполках ТБМ

## Не забыліся пра Бацькаўшчыну

Сакратарыятам Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны зарэгістравана суполка «Крок». Нічога, здавалася б, незвычайнага тут і няма, калі б не пэўныя акалічнасці. Гэта суполка створана ў зямляцтве беларусаў з горада Ашгабат. Узначаліў «Крок» падпалкоўнік запасу Кастусь Прохараў. Намеснік старшыні суполкі — прадпрымальнік Міхась Ткачоў. Абодва — з Гомельшчыны. Аддалі Туркменістану шмат гадоў жыцця. Але не забыліся на сваю Бацькаўшчыну, беларускасць. Яны шчыра імкнуцца прапагандаваць роднае слова, беларускую культуру.

**А. К.**

Меркаванні

## ЗЛАСЛІВАСЦЬ добрай справе не помач

Пачну з агульнавядомага. Мова развіваецца і жыве не па напісаных для яе нейкіх законах, а па ўласных, што залежаць ад гістарычнага існавання народа. Сённяшні стан гістарычнага жыцця беларусаў — дзяржаўная незалежнасць, мір — здаецца, спрыяе ўмацаванню іх моўных каранёў. Трэба толькі не перашкаджаць гэтаму працэсу зласлівасцю і экстрэмізмам. З прыемнасцю можна адзначыць, што амаль усе ў Беларусі, для каго сёння руская мова бліжэйшая і лягчэйшая, імкнуцца, тым не менш, вывучаць беларускую і жадаюць авалодаць ёю, прычым рускія па нацыянальнаму паходжанню нават больш, чым некаторыя беларусы. А вось «злыя» акцыі, у тым ліку газетныя матэрыялы, могуць пашкодзіць працэсу натуральнага пераходу на беларускую мову. Так што калі хто сапраўды хоча садзейнічаць адраджэнню беларускасці, яму не варта спрыяць тым, хто сваёй знешняй палкасцю ды ў дадатак зласлівасцю можа нашкодзіць добраму і разумнаму.

**Віктар МЯТЛА.**

**г. Наваполацк.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Зласлівасць і экстрэмізм у справе пашырэння жыццядзейнасці беларускай мовы сапраўды не павінны мець месца. Варта толькі не блытаць гэта з праявамі рашучага пратэсту нашых грамадзян супраць афіцыйнага ўвядзення двухмоўя, што ўсяляк спрабуюць праштампаваць некаторыя ці то палітычна блізарукія, ці то антынацыянальна скіраваныя асобы з вышэйшай улады. Хоць, паўторым, ва ўсіх выпадках ніхто нікога не павінен абражаць.**

Рэха

***Як стала вядома з друку, адзін з заснавальнікаў і аўтараў папулярнай праграмы «Оба-на» на тэлеэкране «Астанкіна» Аляксандр Сувораў вырашыў паспрабаваць свае сілы на Беларускім тэлебачанні. Ён стварае новую забаўляльную праграму, якая***

## Новы Сувораў ідзе на Беларусь

***па-ранейшаму будзе рыхтавацца для таго ж «Астанкіна», але на пачатку будзе «праходзіць своеасаблівую абкатку» ў Беларусі, бо «развал маскоўскай тусоўкі не прывёў да знікнення жадання рэалізаваць тое, што было задумана спачатку. І самым падыходзячым месцам для ўвасаблення мары Аляксандр выбраў Беларусь». Дык каму належыць Беларускае тэлебачанне ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, якое дае месца ў сваім эфірным часе для прапаганды і «своеасаблівай абкаткі» рускага шоу-бізнесу, у той час, калі і так наша тэлебачанне запалонена перадачамі, якія мала маюць адносін да нашай краіны, да справы Адраджэння?***

***В. Ш.***

## Як ў Гомелі Першамай адзначалі

Надоечы я паведамляў, як у Гомелі адзначалі 75-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі, то раскажу і пра сёлетні Першамай. Адразу адзначу, што з абвесткамі на гэты раз было куды лепш. Ужо за некалькі дзён нехта парасклейваў афішы з запрашэннем выйсці на дэманстрацыю за «права трудящихся». Ды гэта, як аказалася, паўздзейнічала слабавата. На Першае мая на плошчы ля помніка Леніну гадзін у адзінаццаць купна таўклося дзесяткаў з пяць народу рознага ўзросту, ды па дарозе я сустрэў некалькі чалавек з каляровымі шарамі.

Гучней за іншых выступалі камуністы і члены чамусьці расійскіх партый накшталт ліберальна-дэмакратычнай. Мажная жанчына шкадавала, што развалiўся СССР. Ля транспаранта «Вставай с колен, Россия, не позорь седин Кремля!» некалькі пажылых мужчын з баявымі медалямі спрабавалі напомніць, што раней не ўсё было добра, ды і Савецкі Саюз — ужо мінуўшчына, а трэба клапаціцца пра сваю дзяржаву, Беларусь, але з розных бакоў на іх закрычалі: «Дураки старые! Да не слушайте их... Белорусский народ за СССР...» Словам, заглушылі, а пачалі слухаць толькі сваіх аднадумцаў-«эсэсэсэраўцаў», размахваючы чырвоным.

На гэтым фоне шляхотна выглядалі анархісты. Са сваім чорным сцягам яны ціха пастаялі, а калі ў лагеры камуністаў разгарэліся асабліва гарачыя сваркі і той-сёй пачаў махаць кулакамі, спакойна разышліся. Людзі праходзілі міма з усмешкамі, а некаторыя ўвогуле абыходзілі мітынгоўшчыкаў. Міліцыянеры сціпла шпацыравалі зводдаль. Хутка мітынгоўшчыкі, нагаварыўшыся і пасварыўшыся, разбіліся на купкі, а потым таксама пачалі разбрыдацца.

Так што свята яднання працоўных для самых актыўных вылілася ў працяг спрэчак: блізка СССР дайшоў да камунізму ці ўсё ж засталіся не ўзятымі нейкія вышыні? Пажылы мужчына з ордэнскімі калодкамі на пінжаку вёў маленькую дзяўчынку, і тая ў яго распытвала, ці добра было ў СССР. «В СССР было лучше,— сур'ёзна тлумачыў ветэран унучцы,— а детям на Первое мая бесплатно воздушные шарики давали...» Словам, кожнаму сваё. А галоўнае, ніхто нікога не набіў, хоць той-сёй і спрабаваў махаць кулакамі. Магчыма, аматары да такіх спраў ці падаліся ў Маскву, ці мо што іншае паспрыяла бяскроўнасці Першамая ў нашым Гомелі.

**Максім ПУРАНОК.**

г. Гомель.

# УКРАІНСКІЯ ДЗЕЦІ ХОЧУЦЬ ВЫВУЧАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

***У 5-м нумары «Інформаційного збірника Міністэрства освіти України» змешчана распараджэнне за № 119-II Міністэрства асветы Украіны «Про вивчення мов та літератур у навчальних закладах України» за подпісам першага намесніка міністра асветы Украіны А. Г. Погрібнага. Лічу, што ён павінен зацікавіць і грамадскасць на маёй Бацькаўшчыне — Беларусі. Чаму? Ды менавіта таму, што да развалу савецкай імперыі сітуацыі з вывучэннем моў і літаратур як на Украіне, так і ў Беларусі абсалютна нічым не адрозніваліся. Але калі ў Беларусі мала што змянілася і зараз, то на Украіне мяняецца ў гэтай справе сітуацыя, на мой погляд, да лепшага. І як пацвярджэнне маіх слоў — прыгаданае распараджэнне за нумарам 119—II...***

Пачынаючы ад 1-га верасня 1993 года, канчаецца абавязалаўка вывучаць расійскую мову, а расійская літаратура ўжо ў гэтым навучальным годзе «прыказала доўга жыць»: толькі 20% праграмнага матэрыялу былога самастойнага курса «расійская літаратура» ўвайшло ў інтэграваны курс «літаратура народаў свету», які да таго ж чытаецца на дзяржаўнай (украінскай) мове!

У распараджэнні таксама адзначаецца, што «выпускнікі агульнаадукацыйнай сярэдняй школы павінны валодаць трыма або чатырма мовамі: роднай, дзяржаўнай, замежнымі. Ва ўкраінскіх школах, мова навучання якіх супадае з дзяржаўнай, мэтазгодна вывучаць не менш дзвюх замежных моў. Апрача рамана-германскай, па выбару навучальных устаноў гэта можа быць якая-небудзь іншая мова, у тым ліку і расійская. Далей у распараджэнні гаворка ідзе пра свабоду выбару замежных моў, як рамана-германскіх, так і іншых, а менавіта: «Залежно від можливостей навчальних закладів у них можуть формуватися класи (групи) з набором різних зарубежних мов для вивчення. При цьому слід звернути увагу на потребу значно ширшого і сміливішого впровадження до навчальних програм, в т.ч. шкільних, мов держав, які сусідять з Україною або функціонують в етнічних групах на території самої України — крім російськоі, це мови — білоруська, польська, словацька, чеська, угорська...» Далей гаворыцца пра тое, што вывучаць рамана-германскія мовы патрэбна з І–II класаў, а славянскія — з IV—V класаў. А таксама: у расійскіх, польскіх, венгерскіх і румынскіх школах Украіны пачынаць вывучаць дзяржаўную, украінскую, мову неабходна з І класа.

У распараджэнні гаворыцца пра вольны выбар грамадзянамі і вучэбнымі ўстановамі замежных моў для іх вывучэння: «Міністерство України вважае, що існуючий у колишньому СРСР принцип загальнообов'язкового вивчення російськоі мови мусить поступитися принципу вільного вибору».

Так што зараз пасля прыняцця гэтага закона ні аб якім «двухмоўі» на Украіне не можа быць і размовы! У сітуацыі з дзяржаўнай беларускай мовай, якая склалася на Беларусі, на мой погляд, трэба як мага хутчэй пераняць вопыт украінцаў, якія, спадзяюся, астудзяць «гарачыя» галовы, патрабуючыя статуса замежнай (расійскай) мове як другой дзяржаўнай мовы суверэннай дзяржавы. Усё пастаўлена на сваё месца: расійская мова сёння на Украіне будзе мець такія ж правы, як і іншыя суседнія мовы: беларуская, польская, румынская, славацкая, чэшская, ні больш ні менш. І гэта, я лічу, цалкам справядліва.

Дарэчы, у Кіеўскім дзяржуніверсітэце імя Тараса Шаўчэнкі вядзецца падрыхтоўка выкладчыкаў беларускай мовы на аддзяленні ўкраінскай філалогіі. Так што ў сувязі з новай моўнай палітыкай для навучальных устаноў вельмі хутка ў многіх школах нашай дзяржавы замест расійскай мовы ў школьных класах загучыць мова Янкі Купалы. У 1-ай школе Ізяслава, дзе я працую выкладчыкам расійскай і польскай моў, мова Купалы гучыць ужо на працягу дзесяці год у гуртку «Мова нашых пабрацімаў». І вось ён, гэты гістарычны момант: з гуртка яна можа і павінна перайсці ў клас. А каб гэта адбылося, патрэбны падручнікі беларускай мовы. Без іх ніводзін дырэктар школы не рызыкне даць «дабро» на пачатак вывучэння беларускай мовы як вучэбнага прадмета ў курсе «замежная (славянская) мова». Спадзяюся, што ў Беларусі знойдуцца людзі, якія падбаюць пра тое, каб і на Украіне ў школьных класах пачалося вывучэнне беларускай мовы.

Пасля выхаду распараджэння я правёў сярод вучняў школы анкету з адным толькі пытаннем: «Якую мову (расійскую, беларускую, польскую) ты хацеў бы вывучаць у новым, 1993/94 навучальным годзе?» Былі апытаны 51 вучань двух V і 53 вучні IV класаў. Вось вынікі: сённяшнія пяцікласнікі ў VI класе хацелі б вывучаць: расійскую — 4, беларускую — 16, польскую — 31. Вучні IV класаў расійскую мову вывучаць у V класе не хочуць увогуле (яна і без вывучэння зразумелая для ўкраінцаў!), беларускую мову хацелі б вывучаць 27, а 23 вучні — польскую.

І на заканчэнне: калі хто з чытачоў газеты ці нейкая ўплывовая арганізацыя можа дапамагчы падручнікамі беларускай мовы для пачатковых класаў, букварамі, падручнікамі мовы для V—IX класаў, просьба пасылкі з падручнікамі накіроўваць на адрас аўтара гэтага артыкула: УКРАІНА, Хмельницька область, 281200, місто ІЗЯСЛАВ, вулиця Незалежності, 21, кв. 2. Капчык Пятрусь Міхайлавіч.

Давайце ж паспрыяем таму, каб беларуская мова на ўсю моц загучала і ў суседзяў.

**Пятрусь КАПЧЫК, філолаг.**

Украіна.




**У Беларускім Грамадскім Цэнтры ў Саўт-Рыверы (ЗША) прайшла дваццатая па ліку выстава твораў мастакоў і ўмельцаў са Злучаных Штатаў, Канады, а таксама Беларусі.**

**Генусь ПУШЧАНСКІ.**

* * *

**У Гомелі створана кансультацыйная Рада дэмакратычных арганізацый «Грамадскае дзеянне», куды ўвайшлі аддзяленні БНФ, АДПБ, Сялянскай партыі, НДПБ, БХДЗ, «Талака» і іншыя. Прыняты шэраг сумесных заяў і дакументаў.**

* * *

**23 красавіка адбылася канферэнцыя грамадскіх арганізацый Гомеля, якая была прысвечана ўгодкам чарнобыльскай катастрофы. Пры супастаўленні колькасці захворванняў шчытападобнай залозы ў Брэсцкай, Гомельскай, Магілёўскай абласцях выявілася, што Гомельская— лідэр ў гэтым жахлівым спаборніцтве.**

**Зміцер САСНОЎСКІ.**

* * *

**Яшчэ ў 1991 г. у Калінінградзе было зарэгістравана Беларускае культурнае таварыства «Каралявец». Таварыства актыўна прапагандуе беларускую ідэю сярод тутэйшых сваіх суайчыннікаў. Але ў таварыстве грошай на рахунку мала. Гэта разумеюць актывісты арганізацыі. Таму, каб напоўніць «скарбонку» БКТ «Каралявец», у Калінінградзе каля чыгуначнага вакзала пачала працаваць беларуская крама. Тут у шырокім асартыменце вырабы беларускіх умельцаў з саломкі, керамікі, дрэва. Ёсць і беларускія кнігі, газеты, якія таварыства рэгулярна атрымлівае з Беларусі.**

**Генусь ПУШЧАНСКІ.**



 

# Кніжны рынак — люстэрка грамадства

*Заканчэнне.*
*Пачатак на с. 1.*

ліграфісты надзённыя патрабаванні часу? Каб адказаць на пытанне, спынімся ля некалькіх стэндаў.

Экспазіцыю адкрывала старэйшае беларускае выдавецтва «Мастацкая літаратура». На стэндах — новыя кніжкі вядомых беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, факсімільныя перавыданні класічных твораў («Спадчына» Я. Купалы, «Гісторыя беларускае літаратуры» М. Гарэцкага, «Пад сінім небам» Н. Арсенневай і інш.). Асобная вітрына прысвячалася кнігам-малюткам. За шклом — «Мае песні» М. Багдановіча, «Абеліск» В. Быкава, «Праблескі» Я. Брыля, «Святлынь» Н. Гілевіча, іншыя мініяцюры. Па назвах абсалютную большасць кніг «Мастацкай літаратуры» мінулага года складалі выданні на роднай мове. Што да кніжных накладаў, то лічбы тут, на жаль, сціплыя. Асабліва гэта датычыць паэзіі, драматургіі, літаратуразнаўства. Шкада таксама, што зусім мала было выпушчана твораў маладых аўтараў. Так, папулярная серыя «Першая кніга празаіка» прадстаўлена ўсяго некалькімі назвамі. А іх паліграфічнае выкананне і мастацкае афармленне жадае, мякка кажучы, чакаць куды лепшага. Выдавецкая экспазіцыя завяршаецца эксслібрысамі беларускіх мастакоў, якія плённа супрацоўнічалі з «Мастацкай літаратурай» (А. Кашкурэвіч, Я. Ціхановіч, У. Савіч, браты Басалыгі і інш.).

У аўтара гэтых радкоў асаблівую цікавасць выклікалі экспанаты выдавецтваў «Народная асвета» і «Вышэйшая школа», бо ад вынікаў працы іх у значнай ступені цяпер залежыць вырашэнне праблемы стварэння на Беларусі нацыянальнай сярэдняй і вышэйшай школы. «Народная асвета» нас амаль нічым не парадавала. Выключэнні — «Буквар» А Клышкі (шостае выданне), які выхоўвае ў дзятвы патрыятычныя пачуцці, змалку будзіць святую любоў да Бацькаўшчыны, і «Грані слова» В. П. Краснея (факультатыўны дапаможнік па лексіцы роднай мовы для дзесятых класаў). Праўда, стэнды выдавецтва былі застаўлены беларускамоўнымі падручнікамі па розных школьных прадметах. Але ж амаль усе яны — перакладныя з расійскіх адпаведнікаў, там зусім няма ні звыклых беларускіх рэалій, ні самога беларускага духу.

На карысць нацыянальнага Адраджэння лепш папрацавала летась «Вышэйшая школа». Выдавецтва, у прыватнасці, выпусціла «Беларуска-польскі размоўнік» А. Клышкі (22 тысячы паасобнікаў), практыкум для абітурыентаў «Беларуская мова», «Краткий русско-белорусский словарь экономических терминов» і шэсць беларускіх мовазнаўчых і літаратуразнаўчых дапаможнікаў для студэнтаў ВНУ. Але ж засмучае, што ў мінулым годзе з ярод 114 назваў кніг «Вышэйшай школы» толькі 18 выдадзены па-беларуску.

Чарговыя стэнды — экспазіцыя кніжна-часопіснага і газетнага выдавецтва «Полымя», поспехі якога ў пашырэнні беларускасці найбольш відавочныя. Дастаткова сказаць, што краязнаўчая літаратура, выпуск якой апошнім часам пастаянна нарошчвае «Полымя», на вачах знікае ў нашых кнігарнях з паліц, карыстаючыся трывалым і ўстойлівым попытам. Не задавальняюць толькі надта малыя наклады кніг, якіх з нецярпеннем чакае чытач. Тут цвёрдую пазіцыю павінна заняць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, каб у выніку займальныя і даходлівыя кніжкі гісторыка-патрыятычнай і культурна-асветніцкай тэматыкі ва ўсіх выпадках мелі статус дзяржаўнага заказу. Пакуль што тут не ўсё ў парадку. Так, напрыклад, невялікая, прысвечаная нашаму спрадвечнаму дзяржаўнаму гербу кніжка вядомага гісторыка А. Цітова «Наш сімвал — «Пагоня» была выпушчана накладам усяго 5800 паасобнікаў. Яе не змаглі купіць нават шчырыя руплівцы нацыянальнага Адраджэння.




У экспазіцыі выдавецтва для дзяцей і моладзі «Юнацтва» прыцягваюць увагу новыя кнігі: Н. Гілевіча «Мой белы дзень» (вершы пра фальклор і мову нашай Бацькаўшчыны), кніга старэйшага беларускага пісьменніка У. Юрэвіча «Слова жывое, роднае, гаворкае», папулярны штогоднік даіцячай літаратуры «Ветразь». Серыю «Школьная бібліятэка» папоўнілі творы У. Караткевіча, В. Быкава, І. Навуменкі, іншых аўтараў.

Нельга было абмінуць на выставе першыя самастойныя выданні Беларускага гуманітарнага культурна-адукацыйнага цэнтра: «Хрэстаматыя па літаратуры народаў свету» (укладальнік Л. Баршчэўскі), дапаможнік для настаўнікаў пачатковых класаў Н. А. Сторажавай «Мова мая і твая», казкі «Зачараваная хатка» (пераклад з французскай З. Коласа). Ініцыятыва цэнтра, бясспрэчна, вартая ўхвалы. Але яна патрабуе тэрміновай матэрыяльнай дзяржаўнай падтрымкі. Каб такая падтрымка была, то свае кнігі цэнтр змог бы выдаваць у цвёрдай, а не папяровай вокладцы, і новыя кнігі паслужылі б дзецям, настаўнікам значна даўжэй.

Два словы аб экспазіцыі недзяржаўных выдавецтваў (іх у рэспубліцы каля дваццаці), чые кнігі, дарэчы, летась па назвах і накладах склалі больш за палавіну ўсёй кніжнай прадукцыі— 1251 назва накладам у 36 мільёнаў 513 тысяч паасобнікаў (для параўнання: усімі выдавецтвамі Беларусі ў 1992 годзе выпушчана 2364 кнігі і брашуры агульным накладам 71 мільён 940 тысяч).

Залішне, мабыць, казаць, што ў экспазіцыі «Эрыдана», «Белфакса», «Крока ўперад», «Старога свету...» і інш. беларускіх выданняў не знойдзеш. Тут цвік праграмы — эратычны раман Э. Арсана «Эммануэль», амерыканскі супербестселер «Любовь при свидетелях», розныя баевікі, дэтэктывы, выпушчаныя ў свет масавым накладам. Вышэйшым органам улады даўно варта сур'ёзна падумаць над тым, што падобныя кніжкі,— а яны паступова запаланяюць кнігарні рэспублікі,— непазбежна акажуць разбуральны ўплыў на духоўнасць грамадзян Рэспублікі Беларусь. Толькі зрэдку на гэтых стэндах трапляюцца сапраўды добрыя, з густам выдадзеныя, у асноўным перакладныя рускамоўныя кніжкі. Але ж яны рэалізуюцца па цэнах, якія часта не па кішэні шырокаму чытачу.

Агульнае ўражанне ад «Беларускай кнігі-92» неадназначнае. З аднаго боку, нельга не вітаць знікнення ўрэшце зусім учарашняй магутнай плыні так званай грамадска-палітычнай літаратуры, да краю насычанай абрыдлай усім камуністычнай дагматыкай. Значна больш выдадзена кніг, якія сапраўды патрэбны людзям. Але разам з тым насцярожвае, што і дзяржаўныя і (у яшчэ большай ступені) недзяржаўныя выдавецтвы аддаюць перавагу выданням, дзе прапагандуецца жорсткасць, эротыка, пошласць. Па-ранейшаму вельмі мала выпускаецца кніжак на роднай мове (у 1992 годзе іх выйшла ўсяго 550 — толькі 23,3 працэнта па назвах ад агульнай колькасці ўсёй кніжнай прадукцыі Беларусі). Наклады беларускіх выданняў абмежаваныя. І гэта, падкрэслім, датычыць кніжак на дзяржаўнай мове рэспублікі! Але што зробіш, кніжны рынак — люстэрка грамадства.

**Мар'ян ВІЖ.**

*Беларускае замежжа*

# «РОДЗІЧЫ» — газета піцерскіх беларусаў

Як вядома, пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795 гг.) Беларусь апынулася ў складзе магутнай суседняй дзяржавы — Расійскай імперыі. Менавіта з гэтага перыяду ў сталіцы Расіі — Санкт-Пецярбургу — зверху пачалі вырашацца найгалоўнейшыя пытанні жыцця нашай Бацькаўшчыны, бо якраз адсюль ажыццяўлялася кіраванне ўсім беларускім краем (Віленская, Віцебская, Гродзенская, Мінская і Магілёўская губерні). Нічога дзіўнага, што ў такіх умовах беларусы па розных прычынах (вырашэнне гаспадарчых, маёмасных, судовых, службовых спраў і г.д.) сталі часта наведваць Пецярбург. Прыток беларусаў у сталіцу на часовае ці сталае жыхарства прыкметна павялічыўся з 30-х гадоў мінулага стагоддзя, калі пасля задушэння царызмам паўстання ў нашым краі была ліквідавана адзіная вышэйшая навучальная ўстанова — Віленскі універсітэт. У Пецярбургу такім чынам паступова ствараецца пастаянная, даволі шматлікая і ўстойлівая прысутнасць беларусаў. Яна папаўнялася і папаўнялася нашымі суайчыннікамі, прага да ведаў якіх тады з'яўлялася агульнавядомай. Успомнім, што ў Пецярбургу, напрыклад, вучыліся нацыянальны герой Беларусі Канстанцін Каліноўскі, народаволец Ігнат Грынявіцкі (1 сакавіка 1881 г. бомбай забіў у сталіцы імператара Аляксандра ІІ), Францішак Багушэвіч, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Янка Купала. Пецярбург аказаўся звязаным з лёсам многіх іншых знакамітых беларусаў.

З тых далёкіх часоў да дзён сённяшніх у Пецярбургу трывала існуе шматлікая калонія нашых землякоў. Больш таго, зараз, відаць, яна колькасна з'яўляецца самай вялікай у межах былога СССР, бо налічвае за 80 тысяч чалавек (для параўнання: у Маскве — да 70 тысяч). Вядома, піцерскія беларусы не пазбеглі жорнаў так званага савецкага інтэрнацыяналістычнага выхавання, у выніку чаго яны канчаткова абруселі. Але там зараз засталося таксама нямала людзей, якія не парываюць сувязей з Бацькаўшчынай, якія цудоўна ўсведамляюць, што яны перш за ўсё — беларусы. Нас, натуральна, вельмі цікавіць жыццё беларускай дыяспары Санкт-Пецярбурга. Дапаможа ў гэтым «Родзічы» — «незалежная,— як сказана на першай паласе,— газета піцерскіх беларусаў». На жаль, мы маем толькі першы за сёлетні год (дзесяты з дня заснавання) нумар названай газеты, кароткі агляд асноўных матэрыялаў якой прапануецца. Тым не менш, спадзяёмся, што поўнае ўражанне аб жыцці піцерскіх беларусаў нашы чытачы ўсё ж атрымаюць.

Адзначым, што газета выпускаецца камп'ютэрным спосабам на 11 старонках (кожная прыкладна адпавядае стандартнаму машынапіснаму аркушу), наклад даволі абмежаваны. Знешне газета нагадвае звычайнае бляклае ратапрынтнае выданне. Але ж не варта забываць, што галоўнае ў любой газеце — змест.

Нумар адкрывае В. Грыцкевіч, заснавальнік беларускай суполкі Санкт-Пецярбурга, гісторык, дацэнт Санкт-пецярбургскага інстытута культуры, які, да слова, нядаўна адсвяткаваў свой 60-гадовы юбілей. Спадар Грыцкевіч, у прыватнасці, падкрэсліў: «Наша суполка збірае людзей розных прафесій і палітычных поглядаў, рознага ўзросту і паходжання... Усіх нас яднае адчуванне прыналежнасці да нацыі з трывалай гістарычнай традыцыяй не толькі на Беларусі, але і ў тым горадзе, дзе мы зараз жывём. Бо Пецярбург— гэта здавён горад людзей, якія мелі паходжанне з Беларусі, пачынаючы з Кацярыны І і Меншыкава, потым да Каліноўскага і братоў Луцкевічаў, Ластоўскага і Эпімаха-Шыпілы... Збіраемся мы сваім гуртам рэгулярна, наладжваем чытанні па асноўных момантах гісторыі Беларусі».

Далей слова бярэ Мікола Мікалаеў, загадчык аддзела Расійскай нацыянальнай бібліятэкі (былая Публічная бібліятэка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына). Ён акцэнтаваў увагу на тым, што пасля распаду СССР становішча піцерскіх беларусаў істотна ўскладнілася, бо яны аказаліся адрэзанымі ад Бацькаўшчыны новымі дзяржаўнымі межамі. З улікам гэтага «мы хочам мець нармальныя консульскія адносіны (з Рэспублікай Беларусь.— М.В.), хочам мець не эпізадычны, а добра прадуманы культурны абмен». Але тут,— прызнаў аўтар артыкула,— усё будзе залежаць ад беларускага ўрада.

На чацвёртай старонцы газеты Анатоль Разумаў, які ў леташнім снежні прысутнічаў у Менску на І Сходзе беларусаў блізкага замежжа, з горыччу канстатуе, што ў сучасных варунках ён не асмельваецца называць беларускую мову народнай, бо «на вуліцах Менска яе пакуль не чуваць».

Зміцер Саўчанка, супрацоўнік інфармацыйнага аддзела мэрыі Санкт-Пецярбурга, адзначыў, што нацыянальна-культурныя таварыствы беларусаў ва ўсіх краінах блізкага замежжа зараз, як ніколі, маюць патрэбу ў шматгаліновай дапамозе, усебаковай падтрымцы сваёй Бацькаўшчыны (выдзяленне навінак беларускай навуковай і мастацкай літаратуры, падручнікаў для беларускамоўных школ за мяжой, ажыццяўленне праграм стажыроўкі і навучання ў рэспубліцы беларусаў дыяспары і г.д.).

Нумар заканчваецца аналітычным матэрыялам піцерскага літаратара А. Кірвеля, дзе падсумаваны вынікі І Сходу беларусаў блізкага замежжа. Аўтар, у прыватнасці, піша: самае моцнае ўражанне, якое засталося ў многіх удзельнікаў пасля гэтай падзеі,— «адчуванне таго, што мы (замежныя беларусы.— М.В.) — не лішнія, што Бацькаўшчына мае ў нас патрэбу. І пакуль Беларусь... ўсё-такі не дасягнула яшчэ на міжнароднай арэне сусветнага ўзроўню... мы якраз і з'яўляемся тымі масточкамі, якія звязваюць Беларусь з усім светам».

Як бачым, «Родзічы» — змястоўнае і цікавае выданне нашых землякоў, што жывуць у Пецярбургу. Знаёмства нават з адным толькі нумарам гэтай газеты падмацоўвае прызнанне В. Грыцкевіча, зробленае нядаўна на старонках «ЛіМа»: «У Пецярбургу склалася разумнае асяроддзе беларусаў, якое пры належных абставінах здолее актыўна дзейнічаць».

**М.В.**

# Верны сын беларускага народа

Рагнеда АЛЯХНОВІЧ

Сёлета на 75-я ўгодкі БНР — выток і пачатак незалежнасці Беларусі — мы ўшаноўваем памяць беларусаў, лёсам якіх стала справа адраджэння бацькаўшчыны. Адным з верных сыноў Беларусі, нястомным змагаром за яе шчасце і волю быў Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Ён нарадзіўся ў 1903 г. у мястэчку Будслаў былога Вілейскага павета ў сям'і малазямельнага хлебароба. Чатырнаццацігадовым падлеткам Вінцук Грышкевіч (гэта яго сапраўднае прозвішча) быў сведкам разгону бальшавіцкімі салдатамі Першага Усебеларускага Кангрэса. У 1918 г. ён паступае ў чацвёрты клас Будслаўскай беларускай гімназіі. У 1920 г. польскія акупанты зачынілі Будслаўскую гімназію. В. Грышкевіч вучыцца далей у Віленскай беларускай гімназіі. Тут працавалі выкладчыкамі выдатныя дзеячы беларускага адраджэння Антон Луцкевіч, Максім Гарэцкі, ксёндз Адам Станкевіч. З 1923 па 1926 г. В. Грышкевіч — студэнт факультэта філасофіі Карлавага універсітэта ў Чэшскай Празе. Разам з Ігнатам Дварчанінам, Уладзімірам Жылкам, Тамашом Грыбам ён прымае актыўны ўдзел у жыцці беларускага студэнцкага зямляцтва. Скончыўшы Карлаў універсітэт з вучонай ступенню доктара філасофіі, В. Грышкевіч вяртаецца ў Вільню і працуе выкладчыкам гісторыі ў Віленскай беларускай гімназіі.

1 верасня 1939 г. гітлераўскія войскі перайшлі граніцу Польшчы, пачалася Другая сусветная вайна. У «вызваленай» Чырвонай Арміяй Вільні сярод беларускай інтэлігенцыі пракацілася хваля павальных арыштаў. Быў арыштаваны і В. Грышкевіч. Абвінавачанне органаў НКУС было стандартным: «Прыналежнасць да нацыянал-дэмакратыі». В. Грышкевіч быў засуджаны на 8 гадоў зняволення, якое адбываў у Печлагу (Комі АССР). У 1941 г., калі вайна запалала на тэрыторыі СССР, Сталін «даруе» амністыю зняволеным грамадзянам былой Рэчы Паспалітай, разлічваючы на іх удзел у змаганні з нямецкімі акупантамі. Пры ўдзеле эміграцыйнага ўрада Польшчы, які знаходзіўся ў Англіі, фарміруецца армія Андэрса. У 1942 г. вызваляецца з ГУЛАГа і праз некаторы час уступае ў шэрагі гэтага войска і В. Жук-Грышкевіч. Андэрс вывеў свае вайсковыя фарміраванні з СССР. Іран, Ірак, Палесціна, Егіпет, Італія — такі шлях прайшоў Другі польскі корпус (а было ў ім звыш дванаццаці тысяч беларусаў) да сусветна вядомай перамогі над фашыстамі пад Монтэ-Касіна ў маі 1944 г. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны корпус Андэрса быў выведзены ў Англію і праз некаторы час расфарміраваны.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч не толькі ўдзельнічаў у баях з фашыстамі. Ён выкладаў гісторыю ў гімназіі, якая была арганізавана для вайскоўцаў Другога польскага корпуса, прыглядаўся да навучэнцаў-беларусаў, выхоўваў іх нацыянальна свядомымі людзьмі. Ён браў самы чынны ўдзел у стварэнні ў 1946 г. Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ), быў першым яго старшынёй. Пераехаўшы ў Канаду, В. Жук-Грышкевіч прыкладае шмат намаганняў, каб арганізаваць у 1948 г. Згуртаванне беларусаў Канады (ЗБК). Абодва гэтыя аб'яднанні ядналі беларусаў-эмігрантаў на чужыне, падтрымлівалі іх маральна і матэрыяльна. Пры згуртаваннях былі створаны на сяброўскія складкі касы самапомачы, якія дапамаглі многім беларусам атрымаць адукацыю, набыць маёмасць. У гэты ж час В. Жук-Грышкевіч пры універсітэце ў Таронта (Канада) абараніў паўторна (бо ў органах НКУС згінулі ўсе яго дакументы) доктарскую дысертацыю і атрымаў вучоную ступень доктара філасофіі. Ён быў першым кіраўніком беларускай секцыі радыё «Свабода», рэдактарам і актыўным аўтарам газет «Бацькаўшчына» і «Беларус», старшынёй Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады, нарэшце, у 1970—1982 гг.— старшынёй Рады БНР.

Памёр Вінцэнт Жук-Грышкевіч у 1989 г. у Канадзе, пахаваны на беларускім могільніку ў Іст-Браўнсвіку (ЗША). Наталля Арсеннева, якая разам з В. Жук-Грышкевічам вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі і доўгія гады сябравала з ім і яго жонкай Раісай, прысвяціла яго памяці верш «Малачай». Вось некалькі радкоў з гэтага верша:

***Мой сябра дарагі!***
***Нялёгкімі гадамі***
***нам давялося жыць,***
***відаць, наш Кон такі.***
***Ды мы брылі. Ступой***
***ішоў і Кон за намі,***
***аж запыніў Цябе кійком рукі.***
***Стаю адна...***
***Мігціць пад гаем снег***
***счарнелы,***
***Журчыць у раўчуку ручай...***
***Ну, што ж, бывай!***
***Ужо мо й там, дзе Ты,***
***тчэ парасткі нясмела***
***прадвеснік весніх дзён —***
***зялёны малачай!***

Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў таленавітым публіцыстам, удумлівым даследчыкам беларускай гісторыі і літаратуры. Яго пяру належаць працы па гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, даследаванне палітычнага і эканамічнага становішча беларускай эміграцыі ў Канадзе, артыкулы пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Ядвігіна Ш., Уладзіміра Жылку і інш. Яго кніжка «25-га Сакавіка» выдадзена ў 1978 г. у Таронта. Аўтар прысвяціў гэты зборнічак 60-м угодкам Першага Беларускага Кангрэса і БНР. На пачатку тут змешчаны пяць апавяданняў (аўтар называе іх «абразкі-ўспаміны») пра беларускае Адраджэнне пасля кастрычніцкага перавароту.

Першае апавяданне прысвечана снежаньскім падзеям 1917 г. у Менску. Чатырнаццацігадовы Вінцук Грышкевіч працаваў у той час пісарчуком ва Усерасійскім земскім саюзе. Ён надзвычай востра ўспрымаў тагачасныя палітычныя падзеі, таму, відаць, так жыва, эмацыянальна ажно праз 60 год пра гэта распавядае: «Горад гэты, перапоўнены войскам, быў надзвычай рухлівы. Але ў паветры чулася яшчэ нешта асаблівае, нейкае незвычайнае ажыўленне: усюды гучэлі словы: «Беларускі нацыянальны з'езд», «Усебеларускі Кангрэс». Паўтарала гэтыя словы і расейская і беларуская менская прэса і разнаякая цывільная ды вайсковая публіка».

Дапытліваму, цікаўнаму падлетку ўжо не была абыякавай беларуская ідэя, «страшэнна хацелася ведаць, што такое гэты «Беларускі Кангрэс» і дзе ён адбываецца». І вось пасля працы, разам з хлапчуком-аднагодкам, які таксама спачуваў беларускай справе, Вінцук спрабуе перабрацца праз натоўп цікаўных да будынка тэатра, дзе праходзіў Кангрэс, аднак дарэмна: «Тым часам на сквэрыку з'явілася шмат войска. Жаўнеры ў баявым строі са стрэльбамі хлынулі ў тэатр. Адразу выбухла нейкая нервовая атмасфера. Прахожыя затрымліваліся каля войска, што заткнула ўсе дзверы тэатра, і адразу пачаўся тварыцца натоўп. Пры самым уваходзе ў тэатр стаяла некалькі кулямётаў. Жаўнеры сталі адціскаць натоўп і загадвалі расхадзіцца. З тэатра пачуўся гоман і вострыя крыкі. Гуло там, як у вуллі. Час ад часу чутны былі стрэлы. Публіка пачала панічна разбягацца і з нервовым цікавым позіркам затрымлівалася воддаль». Толькі позна вечарам Вінцук даведаўся, што «Беларускі Кангрэс разагналі бальшавікі за тое, што ён пастанавіў, каб Беларусь аддзялілася ад Расеі, што акцыяй разгону кіраваў камісар Крывашэін, што ў тэатры была вялікая бойка і што некаторых беларусаў паарыштоўвалі». Аўтар паказвае абурэнне грамадскасці проціпраўнымі дзеяннямі бальшавікоў, яе спачуванне ўдзельнікам Кангрэса. А калі пазней з'явілася вестка, што Кангрэс усё ж сабраўся зноў у чыгуначным дэпо, пад аховай чыгуначнікаў, якіх бальшавікі не пасмелі крануць, што закончыў сваю працу і пераказаў усе свае паўнамоцтвы аб лёсе Беларусі Радзе Кангрэса, — чуліся словы пахвалы і задавальнення: «Ай да белоруссы, вот так молодцы, не побоялись красных штыков Крывошэіна!..»

Наступны абразок-успамін пераносіць нас у 1918 год, у Будслаўскую беларускую гімназію. Гімназія была заснавана мясцовай інтэлігенцыяй на сродкі местачкоўцаў і жыхароў навакольных вёсак. Тут вучылася больш за 300 дзяцей і падлеткаў. Выкладчыкі былі шчырымі беларусамі і ў сваіх выхаванцаў стараліся ўзгадаваць высокую маральнасць, нацыянальную свядомасць, адданасць бацькаўшчыне. Вестка пра ўтварэнне БНР была ўспрынята ў гімназіі з незвычайным энтузіязмам. В. Жук-Грышкевіч успамінае: «Аднаго дня, памятаю, наш дырэктар Васілевіч, узварушаны і вясёлы, хадзіў па ўсіх класах і дзяліўся з вучнямі гэтай радаснай навіной: «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесціла незалежнасць Беларусі, наш край будзе вольным і незалежным, як калісь даўней. Будзе мець свой урад, сваё войска, сваіхураднікаў, свой скарб і свае школы.

*Працяг будзе.*

Старыя беларускія гімназіі

Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі

Янка БРЫЛЬ

# Адгукніцеся, выхаванцы гімназій!

Летась ад аднаго з чытачоў газеты мы атрымалі ліст, дзе, у прыватнасці, адзначалася: «Задума рэдакцыі «Нашага слова» падаць на старонках выдання матэрыялы пра беларускія гімназіі, якія існавалі ў 20—30-х гадах у Заходняй Беларусі, вартая ўхвалы. Не менш цікавым для чытачоў было б, напэўна, даведацца і пра лёс некаторых вучняў гімназій, якія ў неспрыяльных для беларускасці ўмовах другой Рэчы Паспалітай часта складваўся вельмі драматычна».

Рэдакцыя палічыла думку чытача слушнай і працягвала друкаваць успаміны былых выхаванцаў старых беларускіх гімназій. Праўда, гэтыя згадкі асвятлялі галоўным чынам падзеі, непасрэдна звязаныя з вучобай у беларускіх гімназіях. Лёсы ж гадаванцаў гімназій, жыццё іх выпускнікоў у пасляваенны перыяд ва ўспамінах падаваліся пераважна толькі штрыхамі. Цяжка паверыць, што аўтары абсалютна нічога не ведаюць пра долю сваіх былых аднакашнікаў. Магчыма, тут пэўную ролю яшчэ адыгрывае звыклая асцярожнасць шчыра і адкрыта выказвацца ў друку наконт усяго сапраўды беларускага, выпрацаваная за дзесяцігоддзі камуністычнай дыктатуры, калі праявы любога іншадумства жорстка караліся. Ды, дзякуй Богу, часы ўжо зараз не тыя, каб нечага недагаворваць...

Але вернемся да допісу чытача, з якога пачынаўся артыкул. Пасля цытаванага фрагмента паведамлялася: «...падчас працы ў Смаленскім абласным архіве мне выпала натрапіць на ліст адной з вучаніц Радашкоўскай беларускай гімназіі, якая існавала ў 20-х гадах у гэтым горадзе. Гэты ліст якраз і перадае згаданы драматызм лёсаў». Далей прыводзіцца копія наступнага дакумента (правапіс арыгінала мы захавалі):

«12/VI — (19) 26

**ЗАЯВА**

***Грамадзянка м(еста) Маладзечна Віленшчыны Далінская Альжбета***

**Пасьля сканчэньня Радашкоўска-беларускай гімназіі пры немажліва цяжкіх матэрыяльных абставінах я 20/V 1926 году перайшла (нелегальна) беларуска-польскую мяжу і засталася ў свайго брата, які працуе лектарам у Заходняй пяхотнай школе Мясьнікова ў горадзе Смаленске. Сваёй мэтай (я) паставіла працягнуць сваё развіцьцё ў цэнтры Беларускай Савецкай культуры ў Менску, жадаючы ахвяраваць сябе працэ на беларускай ніве. Смал(енскі) Г.П.У. дзеля пераходу мяжы, на фармальных асновах мне не дазваляе выехаць за межы Смаленска, а гэта можа працягнуцца якія паўгодкі, ды вось, каб не змарнаваць год, прашу прыняць мяне на беларуска вучыцяльскія курсы.**

**Альжбета ДАЛІНСКАЯ.**
**Пры гэтым далучаю атэстат».**

(Дзяржархіў Смаленскай вобласці. Ф. 19, воп. 1, адз. зах. 4287, арк. 14).

Бачыце, колькі выпрабаванняў выпала на долю былой выпускніцы Радашкоўскай беларускай гімназіі А. Далінскай у краіне «где так вольно дышит человек».

Шмат чаго могуць сёння расказаць пра сябе, пра сваіх аднакашнікаў навучэнцы старых беларускіх гімназій. Таму звяртаемся зноў: «Адгукніцеся, выхаванцы гімназій!»

**М. В.**

# У бібліятэчку мясцовага краязнаўства

**У Паставах паступова фарміруецца своеасаблівы правінцыйны выдавецкі цэнтр. Тут ужо выпушчаны два зборнікі твораў сяброў раённага літаратурнага аб'яднання.**

**А нядаўна ўбачыў свет гістарычны нарыс Іосіфа Быхаўца «Лынтупы і іх наваколле». Кніга памерам больш за пяць друкаваных аркушаў. На вокладцы пазначана, што гэта выданне Пастаўскага літаратурнага аб'яднання і Гаварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.**

**Даследаванне Г. Быхаўца дапаўняе бібліятэчку краязнаўчай літаратуры, прысвечанай невялікім беларускім населеным пунктам. І гэта, падкрэслім, у той час, калі ў сталічных менскіх выдавецтвах яшчэ не стала традыцыяй выпускаць асобныя кнігі пра нашы мястэчкі і вёскі.**

**Іосіф Быхавец расказвае пра свае Лынтупы — цудоўны куток нашай бацькаўшчыны — з веданнем гістарычнага матэрыялу. Перад чытачом паступова ажывае сівая мінуўшчына Лынтупаў з ваколіцамі. Адметна, што ўжо на самым пачатку кнігі аўтар наступнымі словамі вызначае сваю даследчыцкую, грамадзянскую пазіцыю: «Я... не навязваю нікому сваю асабістую думку, а пераказваю толькі гістарычныя факты, а чытач сам павінен зрабіць вывад».**

**Па-за ўвагай аўтара не засталіся і легенды, народныя паданні, прысвечаныя Лынтупам і наваколлю. Шкада толькі, што І. Быхавец часам няўважна ставіцца да стылістыкі мовы. Трэба было больш папрацаваць і рэдактару (Алесь Касцень). Наклад «Лынтупаў» 1 тысяча паасобнікаў.**

**А. К.**

# Вучымся!

*ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА*

Урок васемнаццаты

*Вайскоўцам пра родную мову*

1. Прачытайце словы, звярніце ўвагу на выдзеленыя літары.

| | |
|---|---|
| Дзесяццю | асяроддзе |
| пяццю | разводдзе |
| укрыццё | стагоддзе |
| жыццё | меддзю |
| багацце | моладдзю |

2. Прачытайце выразна верш П. Панчанкі, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных ды іх спалучэнняў.

## Сэрца і крыж

Жыў доктар у нашай мясціне.
  Няма ўжо такіх дактароў:
Паставіць ён банькі ці п'яўкі —
  І заўтра ты жыў і здароў.
Дарадчык, суддзя, павітуха,
  Мужыцкі сівы кастапраў,
Ён ведаў душу кожнай хаты,
  Сакрэты ўсіх кветак і траў.
Не быў прагавіты да срэбра
  І жыў беднавата дзівак.
Дзе іншы урваў бы чырвонец,
  Ён браў сарамліва пятак.
Бурчаў ён на гразь, забабоны,
  Ды вельмі тут не пакрычыш:
Няўроды, пажары... А сохі
  Ламаюцца аб карчы.
На п'яніц вясковых сварыўся,
  З галечай людской не мірыўся,
А там пастарэў, занядужаў,
  Ад працы бяссоннай змарыўся:
Пастукала смерць да старога...
  А доктар, раней чым сканаць,
Паспеў запаветнае слова
  Мужчынам старэйшым сказаць:
«Ля вёскі мяне пахавайце,
  На горцы, дзе белы бярэзнік;
Пастаўце мне крыж на магіле
  Высокі-высокі, жалезны...»
Памёр без пакут ён, і людзі
  Маўкліва схіліліся ў горы.
Прыйшла на хаўтуры ўся воласць,
  І плакалі бабы ўголас:
«Бывай, наш вялікі заступнік,
  Ты быў справядлівы і чэсны...»
Сяло на магіле яго
  Паставіла крыж высачэзны.
І дзіва! З вясны той журботнай
  Пажары у вёсцы звяліся,
Хоць грукаў пярун і маланкі
  Ляцелі ў падвоблачнай высі.
Пра цуд разышліся легенды,
  І мала хто знаў у народзе,
Што крыж навальнічныя беды
  Ад стрэх саламяных адводзіў;
Што мёртвае сэрца
  Людзей, як жывое, любіла,
Агонь на сябе выклікала,
  Маланкі ў магілу лавіла.

ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце прыказкі і прымаўкі, звярніце ўвагу на выдзеленыя словы. Растлумачце напісанне слоў з **д-дз, т-ц.**

Абы здароўе, а жыццё будзе. Няма лепшага багацця за здароўе. Здароўе за грошы *не купіш.* Чалавек *не камень.* Хваробу *не трэба* клікаць, сама прыйдзе. Хто *не мае* сілы, таму свет нямілы. Каму баліць, той і крычыць. Балючай раны не трэба дражніць. Застарэлую хваробу цяжка лячыць. Як *не грэе* дух, то *не нагрэе* і кажух. Баліць у грудзях — *не быць* у людзях. *Не ўсякі* доктар, хто лечыць. *Не кожнаму* адно зелле. Што зашкодзіла, тым і лячыся. Душа *не птушка,* праз акно *не вылеціць.*

2. Прачытайце выразна вершы, перадайце іх змест сваімі словамі.

ВАРЫЯНТ I

*С. ЗАКОННІКАЎ*

## Пераліванне крыві

(Урывак з паэмы «Чорная быль»)

На зялёнай клумбе — мак чырвоны,
А далей — бетонная сцяна.
Вось і ўвесь пейзаж,
                    які штодзённа
Ім відаць з бальнічнага акна.

Хочуць зліцца з небам вачаняты,
Носікі прыціснуты да шкла.
Чорны смерч у белыя палаты
Вынес іх з далёкага сяла.
Адарваў ад матчынае ласкі,
Ад любімых гульняў і сяброў.
Дзеці, нібы скошаныя краскі,
Вянуць,
          бо бяда — бялее кроў.

Працэдуры,
          як закон,
                    без слова,
Быццам шмат было іх на вяку.
Падстаўляе пацыент чарговы
Тоненькую,
          лёгкую руку.

Ён маўчыць, хоць вусны пабялелі,
Ён трывае лепей, чым стары.
Мо таму слязой і накіпелі
Вочы маладзенькае сястры.

З вены кропельку знімае ватай
І руку бінтуе, і тугу.
Каб не ўчулі, шэпча вінавата:
«Болей не магу я... не магу...»

ВАРЫЯНТ II

*А. ПЫСІН*

## Барометр

Вучоныя прадказваюць надвор'е,
Прыбораў маюць шмат яны.
А я барометрам у іншай форме
Зрабіўся ў час вайны.

Метал ва мне — варожых сіл асколкі,
Якіх хірург не мог дастаць.
Я ведаю: заныюць раны толькі, —
І трэба змен чакаць;

Надвор'е зменіцца не сёння-заўтра,
І будзе слота, дождж ліне.
Сусед часамі з жартам і без жартаў
Прагноз бярэ ў мяне.

3. Прачытайце сказы і запомніце. Выкарыстайце іх у размове.

* Я адчуваю сябе (пачуваюся) блага. Мне нездаровіцца.
* Пад вечар я вельмі стамляюся.
* Другі дзень у мяне баліць галава (горла, вуха).
* Маё самаадчуванне залежыць ад надвор'я.
* Я захварэў (захварэла). Мне трэба да тэрапеўта.
* Мой сын страціў апетыт, скардзіцца на млосць.
* Мне трэба выклікаць да жонкі ўрача.
* Дзе можна патэлефанаваць, каб выклікаць хуткую дапамогу?
* Калі прыёмныя дні ў акуліста?
* Звярніцеся да дзяжурнага ўрача.
* Відаць, Вы застудзіліся.
* Якая ў Вас тэмпература?
* Давайце памераем крывяны ціск.
* Вы атрымалі накіраванне ў шпіталь?
* Мне трэба паставіць на зуб каронку.

## Тлумачэнне новай тэмы: Скланенне ўласных назоўнікаў

Імёны і прозвішчы мужчынскага роду, што заканчваюцца на зычны, скланяюцца, як агульныя назоўнікі мужчынскага роду са значэннем асобы:

Н. салдат Максім, кавал Міхась, яфрэйтар Садовіч
Р. салдат-**а** Максім-**а**, кавал-**я** Міхас-**я**, яфрэйтар-**а** Садовіч-**а**
Д. салдат-**у** Максім-**у**, кавал-**ю** Міхас-**ю**, яфрэйтар-**у** Садовіч-**у**
В. салдат-**а** Максім-**а**, кавал-**я** Міхас-**я**, яфрэйтар-**а** Садовіч-**а**
Т. салдат-**ам** Максім-**ам**, кавал-**ём** Міхас-**ём**, яфрэйтар-**ам** Садовіч-**ам**
М. (пры) салдац-**е** Максім-**е**, кавал-**ю** Міхас-**ю**, яфрэйтар-**у** Садовіч-**у**

**Заўвага.**

Пры ўзнікненні цяжкасцей у напісанні канчаткаў назоўнікаў неабходна звярнуцца да арфаграфічнага слоўніка: там пазначаюцца канчаткі роднага і меснага склонаў.

Аднак побач з канчаткам **-е** назоўніка з цвёрдай асновай можа ўжывацца ў месным склоне канчатак **-у**: пры Максіму, па Чэхаву.

Назоўнікі мужчынскага і ніякага роду, якія з'яўляюцца геаграфічнымі назвамі, скланяюцца, як агульныя назоўнікі такога ж роду з адпаведнай асновай:

Н. горад, Брэст, станок, Менск, прозвішч-**а**, Лышч
Р. горад-**а**, Брэст-**а**, станк-**а**, Менск-**а**, прозвішч-**а**, Лышч-**а**
Д. горад-**у**, Брэст-**у**, станк-**у**, Менск-**у**, прозвішч-**у**, Лышч-**у**
В. горад, Брэст, станок, Менск, прозвішч-**а**, Лышч-**а**.
Т. горад-**ам**, Брэст-**ам**, станк-**ом**, Менск-**ам**, прозвішч-**ам**, Лышч-**ам**
М. горадз-**е**, Брэсц-**е**, станк-**у**, Менск-**у**, прозвішч-**ы**, Лышч-**ы**

Прозвішчы, геаграфічныя і астрранамічныя назвы на **-оў(-аў), -еў(-ёў), -ын(-ін)** скланяюцца, як агульныя назоўнікі з цвёрдай асновай. Асаблівасці назіраюцца ў творным склоне: прозвішчы маюць канчатак **-ым** (Смалячкоў — са Смалячков-**ым**, Лісіцын — з Лісіцын-**ым**, Гаўрусёў — з Гаўрусёв-**ым**), а геаграфічныя і астранамічныя назвы — **-ам** (Рагачоў — пад Рагачов-**ам**, Магілёў — пад Магілёв-**ам**, Старобін — пад Старобін-**ам**).

Прозвішчы на **-а(-я)**, калі яны належаць асобе мужчынскага полу, скланяюцца так:

Н. Булыг-**а**, Амяльчэн-**я**
Р. Булыг-**і**, Амяльчэн-**і**
Д. Булыг-**у**, Амяльчэн-**ю**
В. Булыг-**у**, Амяльчэн-**ю**
Т. Булыг-**ам**, Амяльчэн-**ем**
М. пры Булыг-**у**, Амяльчэн-**ю**

**Замацаванне.**

1. Праскланяйце пары слоў. Параўнайце канчаткі прозвішчаў і назваў гарадоў.

Васіль Барысаў, горад Барысаў, вучань Валожын, горад Валожын.

2. Дапішыце канчаткі назоўнікаў.

Працаваў з (Мацееў Валодзя), сябрую з (Ціханчук Васіль і Міцкевіч Міхась), перадалі пакет (Лінкевіч Саша, Сінкевіч Слава), вучыўся з (Яўсеенка Віця), нашу жалобу па (Шыпко Вацлаў).

## Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё мовы

ПАСЕЛІШЧА. ГОРАД

Деревня — вёска
хутор — хутар
посёлок — пасёлак
пригород — прыгарад, прадмесце
город — горад, места
столица — сталіца
микрорайон — мікраараён
квартал — квартал
перекрёсток — скрыжаванне
площадь — плошча, пляц
бульвар — бульвар
парк — парк
сквер — сквер
фонтан — фантан
аллея — прысады (адзін. няма)
проспект — праспект
улица — вуліца
переулок — завулак
тротуар — тратуар
переход — пераход
подземный переход — падземны пераход
светофор — святлафор
указатель дорог — указальнік дарог
пешеходная дорожка — пешаходная сцежка.

* * *

Университет — універсітэт
академия — акадэмія
институт — інстытут
училище — вучылішча
школа — школа
ресторан — рэстаран
столовая — сталовая
буфет — буфет
театр — тэатр
кинотеатр — кінатэатр
музей — музей
цирк — цырк
больница — бальніца, шпіталь
поликлиника — паліклініка
аптека — аптэка
универмаг — універмаг
гастроном — гастраном
ателье — атэлье
мастерская — майстэрня

ЗАМАЦАВАННЕ.

Выпішыце словы, з якімі Вы сустрэліся ўпершыню, і складзіце з імі сказы.

*ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ*

## Гарадзенскі замак

Гарадзенскі замак, як і Наваградскі,— яркі ўзор беларускага сярэдневяковага абарончага дойлідства. Ён жывы сведка высокага ваенна-інжынернага майстэрства пашых продкаў.

Перш на высокім беразе Нёмана стаяў драўляны замак. Пра яго непрыступнасць сведчаць няўдалыя спробы крыжакоў захапіць Гарадзенскі замак у 1296, 1306, 1311. 1312, 1361, 1363, 1373, 1375 і 1377 гадах.

У 1971 годзе паспрабавалі адшукаць рэшткі гэтага збудавання, што загінула ў час пажару 1398 года. На паўднёвым схіле гары, пад мураванай сцяной былі адкапаны абвугленыя бярвенні. Пасля іх расчысткі стала зразумела, што гэта частка сцяны-горадні, складзенай, а дакладней, зрубленай з дубовых бярвенняў таўшчынёю 20—25 сантыметраў. Драўляныя сцены-горадні былі ўкапаныя ў вал. Каб захаваць вал ад разбурэння, знешні схіл яго забрукавалі каменнем.

У канцы XIV стагоддзя, як драўляны замак згарэў, пажарышча засыпалі тоўстым пластам жвіру і пяску ды пачалі муравацьсцены па параметры замкавай гары. Гэта былі магутныя збудаванні таўшчынёю да трох метраў.

У Гарадзенскім замку было пяць вежаў. Ні адна з іх не захавалася. У 1580 годзе, у час пабудовы палаца Стэфана Баторыя, караля Рэчы Паспалітай, былі разбураны вежа, праз якую калісьці ўязджалі ў замак, і круглая... Можна меркаваць, што гэта быў так званы «стоўп», змураваны ў канцы XIII стагоддзя і падобны, відавочна, на іншыя круглыя вежы, што стаялі ў той час у шмат якіх беларускіх замках.

*Паводле М. Ткачова.*

# МОЎНАЙ КРЫНІЦЫ — БЫЦЬ ЧЫСТАЙ!

Лексіка складае аснову моўнай культуры народа. А што мы чуем па радыё, тэлебачанні, чытаем у газетах! Яскравы прыклад неахайных адносін прафесійных работнікаў эфіру і друку да асаблівасцяў мовы — *вялікае дзякуй* і *дзякую вас*. Шматлікія словы-калькі гучаць у папулярным «Радыёфакце» (*дыхальныя пуці, зарубеж'е, дзешавей, па пайдзёнвему захаду* ды інш.), не кажучы ўжо пра тэлерэкламу. Дарэчы і *хвіліна* ў «Радыёфакце» доўга не магла замацавацца. Трасянкавасць, відаць, — традыцыя перадачы, як і антыбеларускасць, на вялікі жаль. Прыклады штодзень і ў развагах вядучых, і ў інтэрв'ю, і ў «музычных» перапынках. Вось 4 сакавіка сёлета падавалася гістарычная хроніка часоў Расійскай імперыі. У наступных перадачах зноў нічога беларускага — чыста імперская хроніка. Нібы ўласнай гісторыі наш народ не меў. У сапраўднасці ж спадчына беларусаў вельмі багатая.

Асабліва не ўспрымаецца на слых ацвярдзелае вымаўленне звонкіх зычных у словах тыпу *спевы, змена, цвік, дзверы*. Мяккасць *с, з, ц, дз* ігнаруецца. Адчуваецца, што шэраг дыктараў, журналістаў не заглядваюць у арфаэпічны слоўнік.

Паводле адносін да мовы можна вызначыць не толькі ступень нацыянальнай свядомасці журналіста, але і ацаніць яго прафесійнасць. Самааддана, з душою працуе рэдакцыя «Беларускай маладзёжнай». З вуснаў вядучых перадачы гучыць нязмушана і меладычна наша родная мова. Увогуле прыемна заўважаць, як пашыраецца ўжыванне беларускамоўных формаў. Напрыклад, часцей чуюцца словы ў месным склоне адзіночнага ліку з прыназоўнікам *па: па тэлебачанні, па гэтым пытанні, па тэлефоне*. Шырока выкарыстоўваецца аканне ў складаных «словаскарачэннях» тыпу *гаркам, прафкам, страйкам*. На старонкі газет вяртаюца беларускія словы: *спадар* (замест таварыш), *выклад* (ізлажэнне), *мытня* (гаможня), *лякарня* (бальніца), *рада* (савет), *квіток* (білет), *стасунак* (спосаб), *выстава, землятрус, выснова*. Можна спадзявацца, што хутка ўбачым надпісы *зельня* (аптэка), *харчэўня* (сталовая).

Наша літаратурная мова склалася з мясцовых народных гаворак. І ўдасканальваць яе, мяркую, сэнсоўней паводле дыялектнай лексікі ды ўласцівых гаворкам формаў, а не калькаваннем русізмаў, варварызмаў. А калькі пакуль што суправаджаюць дзіця з першых крокаў светапазнання, з першага вучэбнага дапаможніка — буквара. А чаму не *лемантар*, па якіх вучыліся нашы бацькі і дзяды? Да буквара, кажуць, мы прывыклі. Дык шмат хто прызвычаіўся і да *саветаў, трапкі, бруха*... І што ў гэтым добрага, прыгожага? У нашых слоўніках калек з расійскай мовы — тысячы. У выніку і маем агрубелы варыянт мовы беларускай, які ўжываецца ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі.

Вітаючы з'яўленне ў афіцыйным лексіконе традыцыйна беларускіх словаў, хачу сказаць, што яны часам ужываюцца памылкова. Напрыклад, патрэбна выразная дыферэнцыяцыя ў выкарыстанні слоў *дарыць* і *дараваць*. Апошняе часта ўжываецца ў сэнсе: 1) *прабачаць* і 2) *дарыць* (даваць падарункі). Па-мойму, *дараваць* трэба *за памылку*, а *дарыць* — каханай *кветкі*.

Другі прыклад: *крама* і *лайка*, якія мы бачым на шыльдах, уяўляюцца камусьці сінонімамі. Блытаюць беларускае слова *лайка* (мэбля) з расійскім *лавка* (сінонім слова *магазин*).

Трэба выразна адрозніваь *пляц* (прасторнае месца розных памераў, адсюль і вытворнае памяншальнае *пляцоўка)* ад *плошчы* (геаметрычны тэрмін). Калькаванне з расійскай мовы, такім чынам, парушае беларускую традыцыю строгай дыферэнцыйнасці тэрмінаў і паняццяў. Глядзіце самі:

| | |
|---|---|
| *язык* | *язык* (анатамічны тэрмін) |
| | *мова* (сродак зносін паміж людзьмі) |
| *пол* | *пол* (фізіялагічны тэрмін) |
| | *падлога* |
| *брак* | *брак* (у вырабе) |
| | *шлюб* |
| *лук* | *лук* (зброя) |
| | *цыбуля* (агароднiна) |
| *стул* | *стул* (медычны тэрмін) |
| | *крэсла* (мэбля) |
| *вкус* | смак |
| | *густ* |
| *любить* | *любіць* (радзіму, кветкі) |
| | *кахаць* (дзяўчыну) |
| *играть* | *іграць* (на гармоніку) |
| | *гуляць* (у хакей) |
| *открывать* | *адкрываць* (рахунак, з'езд) |
| | *адчыняць* (дзверы) |
| | *расплюшчваць* (вочы) |

Прыкладаў падобных вельмі шмат. Шкада, што гэты аспект беларускай мовы не заўважаюць артысты новага Менскага тэатра сатыры і гумару, а вышукваюць і дэманструюць, дарэчы няўдала, адваротнае, здзеклівае.

Бянтэжыць таксама афіцыйнае выкарыстанне слова *торг* у множным ліку *таргі*. У жывой народнай мове слова *торг* (торгаць, торганне) азначае *пульс*. Няўжо забыліся, што здаўна ў нас гандаль ідзе на *кірмашы*.

На Меншчыне і ўсходзе Гарадзеншчыны побач з тэрмінам *дзелавы* ў гутарковай мове ўжываюцца сінонімы *спраўны* (чалавек) і *справавы* (дакумент). Часта кажуць: *упраўны, надта ўпраўны!* (слишком уж деловой!). Прапаную: словы *спраўны* і *справавы* прыняць у шэраг вытворных ад *справа*.

Сіротнае становішча і тэрмінаў *іск, ісцец* і *саіскальнік*. Яны замацаваныя ў сучасных беларускіх слоўніках. Паводле Ластоўскага гэтыя тэрміны адпаведна гучаць: *спазыск, спазыстчык, спаборнік*. А ці не лепш замацаваць паслядоўную вытворнасць ад *шукаць:* іск=*шук*, ісцец=*шуканец*, саіскальнік = *сушукальнік* (як і *сустаршыня)?* Ёсць жа *вышук* (крымінальны вышук), *вышукваць* ды іншыя з гэтага шэрагу словы.

І яшчэ. Вяртаецца наша традыцыйнае слова *гарбата* (ад лацінскага «гэрба» — трава). Але каб не блытаць з сугучным тэрмінам *гарбаты*, мэтазгодна пісаць паводле першаасновы праз націскное *э — гэрбата* або наогул першапачаткова — *гэрба*.

Беларуская мова паступова вызваляецца ад штучнага лексічнага напластавання. Вяртаюцца родныя словы, а таксама даўно адаптаваныя іншамоўныя. Гэты працэс непазбежны. Але натуралізацыя мовы павінна мець далікатнае ўмяшанне спецыялістаў і тых, хто ёю заўжды свядома карыстаецца.

**Язэп СТАПАНОВІЧ,**
старшыня Акадэмічнай рады ТБМ імя Ф. Скарыны.

# *Жывыя назвы*

Вывучаючы паходжанне назваў многіх населеных пунктаў нашага раёна, можна заўважыць, як у іх адлюстраваны характар мясцовасці. Большасць гэтых назваў звязана з лесам, з назвамі лясных парод.

Гэта гаворыць пра тое, што некалі ў гэтых месцах шумелі непраходныя лясы, у якіх жылі шматлікія і разнастайныя жывёлы. Для прыкладу возьмем некалькі населеных пунктаў, што носяць назвы дрэваў. Гэта Вялікі Бор, Бароўка, Белая Дуброва, Ліпаўка, Бароны, Мурынбор, Антонаўка, Калодліва, Дубраўка, Вішні, Вішанькі, Дубянец, Зялёнкавічы, Баравая, Осаў. Апошняя назва паходзіць ад слова «асавок» — маладыя асінавыя парасткі.

Да нядаўняга часу было няясным паходжанне назвы Дзяражня. Цяпер гэта ўстаноўлена. Дзяражня, або Дражня,— месца распрацоўкі лесу да вынаходства пілы. Лес абдзіралі, расколвалі і сплаўлялі па рацэ.

Не толькі Касцюковіцкі раён быў шматлесным, але і суседнія з ім мясцовасці. Пра гэта сведчаць назвы Бярозкі, Ельня, Забор'е і іншыя.

Многія населеныя пункты, вуліцы горада носяць імёны, узятыя ад жывёл, птушак, насякомых: Мядзвёдаўка, Вараноўка, Сакалоўка, Маліноўка, Шчаглоўка, Жукаўка, Мухаўка, Зубр.

Многія назвы звязаны з глеба-грунтовымі ўмовамі: Азярэц, Астравок, Віроўка, Калодзецкая, Прудок, Мялоўка, Зарэчча, Машавое, Норкіна, Каменка, Студзянец. Старажытнае слова «студня» абазначала «калодзеж» і наогул крынічную мясцовасць.

Назвы населеных пунктаў часта звязаны з тэрмінам «буда» — Смолькаўская Буда, Дварацкая Буда, Прусінская Буда. Калісьці будамі называлі невялікія будынкі для неземляробчых мэт. Напрыклад, смалакурні для вырабу дзёгцю, для выпальвання паташу і г. д.

Назва Гутка паходзіць ад слова «гута» — прадпрыемства для вырабу шкла.

Ёсць назвы, што паходзяць ад траў (Краніўня, Папаратная), ад угоддзяў (Мокрае, Разрытае, Гразівец). Частка назваў абазначае род заняткаў: Крупня — апрацоўку сельскагаспадарчых культур, Бесядзь — бяседу, гандаль — месца кірмашоў.

У назвах рэк і азёр адлюстраваны асаблівасці навакольнай прыроды, якасць і ўласцівасці вады: Альшанка, Цяменскае, Чарнавутка.

Прырода — гэта незлічоныя багацці. Яна шчодра ўзбагаціла і нашу мову.

**Міхась ШАВАНДА,**
галоўны ляснічы Касцюковіцкага ляггаса.

# Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

Францішак БАГУШЭВІЧ (1840, фальварак Свіраны Віленскага павета — 1900) — адзін з першых загаварыў пра родную мову як «адзежу душы», найважнейшы сродак нацыянальнай культуры. У Прадмове да кніжкі сваіх вершаў «Дудка беларуская» ён пісаў: «...я шмат дзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і праканаўся, што мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо іншая якая...

Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так, як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»

**Паводле У. Б. Ламекі.**

# Чытачу — з рэдакцыі

**Вельмі шкада, што ў апошні час «Наша слова» нельга знайсці ў газетных кіёсках Бабруйска. А я газету менавіта там увесь час набывала. Л. ЗІНКЕВІЧ.**

АД РЭДАКЦЫІ. Мы таксама шкадуем, што ў Бабруйску мала заказваюць «Наша слова» для рознічнага продажу. Але мы колькі разоў і папярэджвалі тых, хто цікавіцца нашай газетай: ненадзейна спадзявацца на кіёскі. Лепш усё ж на «Наша слова» падпісацца. Тады кожны тыдзень у пэўны час свежы нумар газеты вам прынясе паштальён.

## *БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА*

# «Голас часу»: травень — чэрвень-93

У нумары чытачам прапанаваны шэраг матэрыялаў па гістарычную тэматыку. Сярод іх невялікі нарыс «Другі Усебеларускі кангрэс 27.06.1944 г.», артыкул Антося Мірановіча «Генезіс царкоўных брацтваў на беларускіх землях у XVI—XVII стст.», пачатак публікацыі Ю. Свяржынскага «Галасы аб «Вялікай Айчыннай вайне». Удзел у ёй савецкіх і польскіх партызан».

«Бедныя камуністы» — пад такой назвай друкуецца матэрыял, прысвечаны публікацыям вядомай пісьменніцы Святланы Алексіевіч «Два голасы», якія былі змешчаны на старонках «Народнай газеты» 12 студзеня 1993 г. У прыватнасці, у артыкуле «Бедныя камуністы» ідзе гутарка пра 70-гадовага камуніста, у мінулым хірурга Мікалая Севасцьянавіча Кулажанку.

Наталля Сцяжко працягвае публікацыю матэрыялаў «На залах музея Алеся Белакоза». На гэты раз чытачы прачытаюць успаміны пра Браніслава Тарашкевіча, а таксама даведаюцца пра жыццё і творчасць маладога таленавітага рэжысёра Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы Мікалая Мікалаевіча Пінігіна.

«Пад натхненнем дыскусіі ў беларускім клубе» — аповяд Віталя Цярпіцкага пра сустрэчу з амерыканцамі ў клубе Беларуска-амерыканскага грамадскага цэнтра ў Саўт-Рыверы, якая адбылася пасля ўрачыстасцей, прысвечаных угодкам 25 Сакавіка 1918 года.

Чытачоў «Голаса часу» павінен зацікавіць артыкул А. Асіпчыка «Жыровічы», у якім ён расказвае гісторыю ўзнікнення Жыровіч і нагадвае пра тое, што тут з мінулых гадоў і стагоддзяў стаяць яшчэ цэлымі ўсе пяць цэркваў: Успенская Лаўра з 1760 г., Святога Крыжа з 1769 г., Багаяўленская з 1672 г., Семінарская і Юр'еўская, а прыгажосць мясцовасці і цудоўная архітэктура Жыровіцкага манастыра і ўсіх яго цэркваў захапляюць кожнага наведвальніка.

У нумары змешчаны невялікі рэпартаж Юрыя Весялкоўскага пра даклады беларускіх навукоўцаў з Беларусі, якія чыталіся на англельскай мове ў Лонданскім універсітэце Усходне-Славянскіх Студый.

Напрыканцы, як заўсёды, друкуецца інфармацыя пра грамадска-культурнае жыццё нашых суайчыннікаў, а таксама вынісы з беларускага перыядычнага друку.

**Л. Б.**




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

*Сярэдзіна XIX стагоддзя — час узлёту творчасці двух буйных англійскіх паэтаў: Альфрэда Тэнісана (1809—1892) і Роберта Браўнінга (1812—1889).*

*Альфрэд ТЭНІСАН*

## Біце, біце, біце...

Біце, біце, біце
Ў камень халодны, хвалі!
Думкі мае сябе
Не захавалі.

Добра рыбацкаму сыну —
З сястрою гуляе.
Добра матросу — на лодцы
Песні спявае.

Дружна плывуць караблі —
Прыстань за ўзгоркам.
Змоўк любы голас, апала рука,
Ой, горка!

Бія, бія, бія
Аб шэрыя скалы, о мора!
Закацілася сонца маё,
Дагарэла ўчора.

*Пераклад з англійскай Юркі ГАЎРУКА.*

*Роберт БРАЎНІНГ*

## У Англіі вясной

Як цягне ўслед за жураўліным выраем
Туды, дзе ў першыя аблёты выраіў
Пчалу на цвет свой першы красавік,—
У родны край!
Прачнуўся б там, прынік
Да шыб спацелых: стан вярбы імглісты
За ноч акрыўся кволым, смолкім лістам,
І ў вязах перасвіст шпакоў знаёмы —
Там, гэтаю парою дома.
А прыйдзе май з цяплом —
аб тую ж пору
Нахлынуць гужам ластаўкі з-за мора,
Перападуць дажджы, і ў поўны рост
Усё пайшло буяць, красуе цветам,
Спявае. Чуеш, як рабіннік-дрозд
Яшчэ спрасонку, тэмбрам нераспетым
Страчыць то ў дзве рулады, то нясмела
Па яблыні, што як нявеста ў белым.

І хоць яшчэ зямля чакае плуга,
А ўжо гарыць каля выжарын луга
Купаўка — першацвет маёй айчыны...
Што перад ёй магноліі чужыны!

*Пераклад з англійскай Язэпа СЕМЯЖОНА.*

**Віншуем!**

***22 траўня споўнілася 50 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Міколы Федзюковіча. Віншуючы з юбілеем, жадаем Міколу Мікалаевічу здароўя, добрага творчага неспакою і ўсяго самага найлепшага.***

*Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ*

## Мой свеце...

*Памяці Міхася Стральцова*

Трымаецца свет на майстрах!
«Загадка...» была ці «Смаленне...»—
схіляў тваю голаў не страх,
а гонар-сумленне.

Сляды ўсеабдымнай бяды
намацаў праз лёд калядовы,
і свет раскалоўся тады
на вешчыя словы.

Яны зазвінелі наўздзіў
рамантыцы — золкай бярозе,
якую ты сам пасадзіў
пры белай дарозе.

Святое, бы хлеб, рамяство
шчаслівым нашчадкам засведчыць:
усё на зямлі ад майстроў,
усё — ад любові, мой свеце!..

Скажы ж, на якім рубяжы —
у восеньскай пушчы ці ў полі —
балючую споведзь душы
паэт можа **песняй спатоліць?**

Так будзе — спрадвеку было:
на шэрую ростань дарогі
зламанае хмары крыло
ўпадзе без тваёй дапамогі.

## Слова

На розных мовах размаўляе страсць.
Вяльможны позірк у адказ не ловіць
твайго пагляду, вартага любові:
ці мала ў свеце безыменных страт...

Ашчадны і шчаслівы,— тоіць страх
за пачуццё сваё, што прыкіпела
да худасочна-спешчанага цела...
Ад страху нараджаецца кастрат!

Я ж разумею: ёсць яно, імя,
у кожнай страты, у любой любові —
ёсць горды лёс, ёсць голас адмысловы
ў высакароднай страсці, як і ў Слове,
якому маці — горкая Зямля,
якому месца на зямлі няма...

***Гісторыя ў анекдотах***

*Л. Р. КАЗЛОЎ*

## «З дазволу караля і вялікага князя»

*Працяг. Пачатак у №№ 1, 2, 4–6).*

Ну што ж, лёгка смяяцца з гатовага, трох грошаў не прыклаўшы. Таму звернем увагу на асобу, якая грошы тыя прыкладала,— на каралеву Бону. Бо яна пісала правілы паводзін як для свайго каранаванага мужа, так і для каранаванага сына. Такім чынам, жыццё апошніх Ягайлавічаў прайшло паводле яе сцэнарыя.

Не падумайце, што гэта неяк адмоўна адбілася на нашай гісторыі. Зусім наадварот. Дзякуй Богу, гэтая італьянка прыспешыла Рэнесанс і як магла штурхала сваіх падданых да дасягненняў тагачаснай цывілізацыі. Узяць, напрыклад, агарод. Так, той самы, апрацаваны з вялікай любоўю кавалак зямлі, дзе расце для патрэбы і асалоды нашых страўнікаў шмат што. Дык вось, у гэтым «шмат чым», асабліва з прыпраў, трэба прызнаць вялікі ўклад нашай каралевы, следам за якой з еўрапейскага поўдня прыйшлі новыя раслінныя культуры. Ды што там! Само ўжыванне ежы ператварылася ў эстэтычны працэс, і тут важную ролю адыграў відэлец, элегантна прадэманстраваны Бонай.

Жыгімонт Стары нічога не шкадаваў для любай жонкі, асабліва калі яна падарыла яму наследніка. Таму не дзіва, што каралева паступова запісала на сваё імя вялікія ўладанні. Паколькі яна з дзяцінства ведала пра сэнс банкаўскіх аперацый і падтрымлівала знаёмства з фінансістамі, то ў хуткім часе нерухомая маёмасць ператварылася ў рухомую. З гэтай рухомасцю, што потым будуць называць «неапалітанскімі сумамі», аўдавеўшы і пасварыўшыся з сынам (аб прычынах крыху ніжэй), Бона Сфорца з'ехала на радзіму. Але яшчэ доўга будуць памятаць «Боначку, што сцягнула золата бочачку».

*Сярод розных спосабаў здабываць «неапалітанскія сумы» ў каралевы Боны быў і такі, як продаж службовых пасад — і свецкіх і духоўных. Калі стала вядома, што каралева-ўдава збіраецца туды, адкуль прыехала, ды яшчэ разам з такімі каштоўнасцямі, сенат высунуў прапанову затрымаць яе. Для прагаворвання з манархіняй паслалі біскупа Зэбжыдоўскага, аднаго з былых фаварытаў Боны, які таксама скарыстаў магчымасць і набыў сваё месца пад сонцам у яе вялікасці. Але зараз сітуацыя была зусім іншай, таму Зэбжыдоўскі пачаў даволі ультыматыўна. Тут старая каралева не вытрымала і гнеўна абарвала яго:*

*— І гэта кажаш ты, які купіў з майго дазволу біскупскі сан!*

*— Што зробіш,— сціпла ўздыхнуў пасланец сената,— купіў, бо прадавалася...*

*Малады кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст вызначаўся талерантнасцю, калі не сказаць абыякавасцю, да пытанняў рэлігіі. Не дзіва, што ў гэты час пашырылася Рэфармацыя, якая вельмі непакоіла такіх прадстаўнікоў каталіцкага кліру, як біскуп Зэбжыдоўскі. Каб узмацніць свае пазіцыі, ён заняўся незвычайнай справай: будаваў над Віслай, у мястэчку Гара, кальварыю ў іерусалімскім стылі. І для гэтай новабудоўлі загадаў прывезці з Палесціны сапраўдную святую зямлю.*

*Неяк Зэбжыдоўскі сутыкнуўся з Жыгімонтам Аўгустам, які спытаў яго, што чуваць з будаўніцтвам кальварыі.*

*— О, справа ідзе паспяхова, міласцівы пане,— жвава адгукнуўся біскуп,— кажуць, у Гданьск прыйшоў карабель са святой зямлёю.*

*— Мне здаецца,— заўважыў кароль,— лепш было б прывезці добрай чорнай зямлі з украінскага Падняпроўя ды палепшыць мазавецкія пяскі.*

*Бачу, наш ягамосць найяснейшы гаспадар не ахвочы размаўляць аб справах веры.*

*— Не ахвочы,— пацвердзіў Жыгімонт Аўгуст,— размаўляю толькі ў касцёле, звяртаючыся да Бога, і то — зусім нямнога.*

Як вядома, Жыгімонт II Аўгуст стаў апошнім прадстаўніком дынастыі Ягайлавічаў. Патомства ён не даў. І то, магчыма, таму, што не пашанцавала яму на жонак. Наконт кахання ў вышэйшых сферах мала што можна даznацца. Маецца на ўвазе сапраўднае каханне. Тут каранаваным асобам не пазайздросціш. Бо як толькі справа даходзіла да шчырых пачуццяў, адразу ж у дзяржаве нешта пачынала псавацца. Таму каралеўска-велікакняжацкі двор на чале з радняй у імя дынастычных ці агульнадзяржаўных інтарэсаў энергічна ўмешваўся ў падобныя справы. Божа, колькі тут было драм! Але той, хто толькі здалёк мог, і то зрэдку, убачыць каралеўскую пару, звычайна казаў: «Дзіва, што ў караля жонка пекная». Можна толькі ўявіць, як пакутаваў ад такіх слоў яго вялікасць, калі гэта не адпавядала рэаліям. І ўсё ж надаралася магчымасць адчуць сябе хоць на нейкі момант нармальным чалавекам, закінуць далей сваю карону і кахаць, не звяртаючыся за парадай да занадта разважлівых людзей. Перажыў гэта і Жыгімонт Аўгуст.

Ён ажаніўся ў дваццаць тры, дакладней, яго ажанілі з Альжбетай, дачкой Фердынанда Габсбурга, будучага імператара. Праз два гады, падчас візіту ў Вільню малады кароль аўдавеў. І тут неўзабаве сустрэў маладую ўдаву... Не, давайце лепш паслухаем летапісца.

*«Потым кароль Аўгуст, калі пахаваў цела каралевы, жонкі сваёй, будучы маладым панам і не могучы стрымаць прыроджанай хцівасці сваёй да белых галоў, пачаў мілаваці паню Барбару Радзівілаву, якая засталася ўдавою пасля пана Станіслава Альбрэхтавіча Гаштольда, ваяводы трокскага, і пражывала на той час пры матцы сваёй, пані Мікалаевай Радзівілавай, пані віленскай, і браце сваім, пане Мікалаю Радзівіле, падчашым. І кароль пачаў хадзіць да яе ноччу, куды сабе ход учыніў з палаца аж да дому яе, і там часта быў».*

*Калі гаварыць пра Гаштольдаў, то яны, магчыма, і не надта перажывалі амурныя справы былой сваёй нявесткі. Асабліва гэта не кранала, бо ўсяго іх хапала яшчэ з тых часоў, «калі Вітаўт раздаваў, а Гаштольд адбіраў». А вось што да Радзівілаў, то ім было далёка неабыякава. Маладому Ягайлавічу катэгарычна заявілі аб непажаданасці такіх візітаў. Той не прамінуў адразу ж нагадаць, з кім яны маюць справу. На гэта адзін з Барбарыных братоў, Мікалай Чорны, адказаў: «Кароль — у Кракаве вышэйшы, а ў Нясвіжы — я важнейшы». Хаця, нагадаем, сцэна адбывалася ў Вільні.*

*На нейкі час Жыгімонт Аўгуст суцішыўся. Але ці будзе такі чалавек спакойна сядзець, калі вось тут, непадалёк, такая прывабная «белая галава»! І кароль, які «палымнеючай крыві сваёй прыроджанай далей стрымліваць не мог, пайшоў да яе ноччу, а трэцяй гадзіне». Ну, а тут яго ўжо пільнавалі браты Радзівілы...*

*Кажуць, што за пару дзён перад гэтым адзін з Гаштольдаў, сустрэўшы Мікалая Чорнага, паглядзеў яму шматзначна ў вочы і загадкава вымавіў: «А чаму б і не?» Калі Гаштольду была знаёма французская мова, то гэта, відаць, ён сказаў па-французску.*

*«...А чаму б і не?» — з гранітным спакоем спытаў брат Мікалай разгубленага каханка, які стаў мармытаць нешта накшталт высокіх і незнішчальных пачуццяў. «Калі наш найяснейшы і найшляхетнейшы спадар так кахае Барбару, дык чаму вам не павянчацца?» І не паспеў кароль і вялікі князь прыкінуць, да якіх вынікаў гэта прывядзе, як тут жа на знак нясвіжскага ўладара ў пакой ціхенька праслізнула постаць плябан*

*Працяг будзе.*

# Беларускі народны каляндар

Чэрвень — месяц пераходны — ад вясны да лета, ад веснавых земляробчых работ да летніх. На яго прыпадае старажытнае славянскае свята Сёмуха, звязанае з культам раслін, продкаў і шлюбу. У абрадавых сёмушных песнях, якія адносяцца да веснавога цыклу, дамінуюць матывы кахання, дзявочай долі і нядолі, што адпавядала часу, бо пасля веснавых работ перад летнімі ў сем'ях найчасцей ладзіліся вяселлі. З культам продкаў і раслін генетычна звязаны веснавы абрад *Куст*. Прыгожую дзяўчыну прыбіралі зялёным голлем, на галаву надзявалі вянок і вадзілі па хатах, славячы гаспадароў і атрымліваючы ад іх падарункі. Людзі верылі ў магічную сілу «куста», прасілі яго садзейнічаць шчасліваму шлюбу і багатаму ўраджаю, каб радзіла «жыта, пшаніца і ўсякая пашніца».

Народная мудрасць прыраўноўвае летні дзень да тыдня і дае маральную ацэнку гультаям («Летні дзень — за зімовы тыдзень», «Хто ўлетку балюе, той узімку галадуе» і г.д.). Народныя прыказкі і прыкметы: «Сухое лета не высушыць, а мокрае вымачыць», «Што летам нагой капнеш, тое зімой рукой хапнеш», «Калі камарна, то і хлебна», «Як асінка затрасецца, тады волік напасецца», «Смірнае лета болей ураджайна», «Не прасі лета доўгага, а малі цёплага», «Вясну хваляць за дажджы, а лета за снапы», «Людзі рады лету, а пчолы — цвету».

## «Не поле родзіць, а лета»

3 (чацвер). **Пр.** *Алена.* Сяўба лёну.

4 (пятніца). **Пр.** *Васіліск.* Пачынаюць спяваць салаўі.

5 (субота). **Пр.** *Траецкія (сёмушныя) дзяды. Дзень памяці Ефрасінні Полацкай.*

*6 (нядзеля).* **Кат.** *Дзень найсвяцейшай Тройцы.* Пяцісотыя ўгодкі касцёла ў Ішкальдзі.

**Ун.** *Нядзеля ўсіх святых.*

**Пр.** *Сёмуха (Тройца). Пяцідзесятніца.* У культавую практыку праваслаўнай царквы свята ўведзена ў XIV ст. Сергіем Раданежскім. Адзначаецца на сёмым тыдні пасля Вялікадня. Святкуецца з зелянінай у хаце. На падлогі сцелюць аер, а вокны, дзверы і столь абтыкаюць галінкамі бярозы. На першы дзень свята ў храмах асвячаюць зёлкі дзеля таго, каб яны набылі магічную сілу. На другі і трэці дзень свята людзі з'язджаліся на фэсты і кірмашы, дзе моладзь знаёмілася, ладзіла сяброўствы, выбірала сабе суджаных. Увечары адбываліся гульні з карагодамі і танцамі, на якіх спяваліся абрадавыя песні.

7 (панядзелак). **Пр.** *Дзень Святога Духа. Трэцяя знаходка галавы Яна Хрысціцеля.*

**Ун., Кат.** *Пачатак посту перад днём апосталаў Пятра і Паўла.*

10 (чацвер). **Кат.** *Свята Божага Цела.*

**Пр.** *Дзевятнік,* або *Сухі Чацвер.* Па народным календары забаранялася ў гэты дзень працаваць, каб не было засухі ў полі.

11 (пятніца). **Ун.** *Дзень апосталаў Баўтрамея (Варфаламея) і Варнавы.*

13 (нядзеля). **Пр.** *Дзень усіх святых.*

14 (панядзелак). З гэтага дня пачынаецца *Русальны тыдзень*, багаты на рытуальныя дзеянні і песні, цесна звязаны з павер'ямі пра русалак. Русалкі, па ўяўленні беларусаў, прыгожыя жанчыны з распушчанымі доўгімі валасамі. Да Русальнага тыдня лічыцца небяспечным купацца, каб русалкі да сябе не зацягнулі ў глыбіню ракі і не ўтапілі і каб іншая бяда не надарылася.

Абрадавыя дзеянні Русальнага тыдня: выбіралі сярод дзяўчат «русалку» (адпаведна яе апраналі і прычэсвалі) і плялі вянкі — для сябе і выбранай дзяўчыны. Пасля тыя вянкі разрываліся або цэлымі закідваліся на грады, «каб расла добрая капуста». З гэтай жа мэтай — паспрыяць ураджаю — завівалі галіны бярозы і іншых дрэў «на гады добрыя, на жыта густое, на ячмень каласісты». Кульмінацыя абраду — провады русалкі з вёскі ў жыта або на могілкі. Вялі ў карагодзе, спяваючы абрадавыя песні, давёўшы да месца, пакідалі яе там, а самі ўцякалі, «каб не злавіла».

Абрады Русальнага тыдня ўзыходзяць да старажытнаславянскіх язычніцкіх гульняў, так званых русалій, звязаных з аграрнай магіяй. Людзі лічылі, што русалка — апякунка зямлі і распарадчыца воднай стыхіі. У праваслаўных з панядзелка Русальнага тыдня пачынаецца Пятровы пост (да свята Пятра і Паўла).

18 (пятніца). **Кат.** *Найсвяцейшае сэрца пана Езуса (Ісуса Хрыста).*

19 (субота). **Кат.** *Беззаганнае сэрца панны Марыі.*

20 (нядзеля). **Ун.** *Трэцяя нядзеля пасля Сёмухі.*

21 (панядзелак). **Пр.** *Тодар.* Прыкмета: «На Тадора раса — каноплі паласа».

24 (чацвер). **Кат., Ун.** *Нараджэнне Яна Хрысціцеля. Купалле.*

25 (пятніца). **Пр.** *Ануфрый.* Народны каляндар раіць земляробам пачынаць ворыва пад грэчку.

26 (субота). **Пр.** *Акуліна-грачычніца.* Пасеў грэчкі.

27 (нядзеля). **Ун.** *Чацвёртая нядзеля пасля Сёмухі.*

29 (аўторак). **Кат., Ун.** *Дзень слаўных апосталаў Пятра і Паўла.*

30 (серада). **Ун.** *Сабор святых апосталаў.*

**І.К.**




З нязменным поспехам ідуць выступленні самадзейнага вакальнага ансамбля «Жытніца» Жыткавіцкага раённага Дома культуры. Цяпер калектыў рыхтуецца да гастроляў у Германіі.

НА ЗДЫМКУ: на сцэне — «Жытніца».

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ. БЕЛІНФАРМ.**

## КЛУБ СПАДЧЫНА

**запрашае 28 траўня а 18-й гадзіне на вечарыну, прысвечаную памяці Максіма Багдановіча. Адбудзецца канцэрт, у якім бяруць удзел: ансамбль «Сябры» (мастацкі кіраўнік Анатоль Ярмоленка), дзіцячая студыя «Буслік» пад кіраўніцтвам кампазітара Зміцера Яўтуховіча, музычны калектыў клуба «Спадчына» пад кіраўніцтвам Галіны Смоляк. Прагучаць песні на словы М. Багдановіча, а таксама творы з новай праграмы студыі «Сябры» і кампазітара З. Яўтуховіча «Эмігранты Беларусі». Адбудзецца вернісаж выставы, прысвечанай М. Багдановічу.**

# На хвалях БТ

### 26 ТРАЎНЯ, СЕРАДА

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**21.00. Панарама.**
**22.25. НІКа.**
**22.40. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

### 27 ТРАЎНЯ, ЧАЦВЕР

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.45. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.**
**21.00. Панарама.**
**22.25. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**23.55. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

### 28 ТРАЎНЯ, ПЯТНІЦА

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**21.00. Панарама.**
**23.10. НІКа.**
**23.25. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

### 29 ТРАЎНЯ, СУБОТА

**11.45. Роднае слова. Тэлечасопіс.**
**12.15. «Ці ёсць будучыня ў беларускай акадэмічнай навукі...»**
**14.30. «Беларусь збірае сяброў». Дабрачынны вясенні баль.**
**16.35. «Як на споведзь...» Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў.**
**21.00. Панарама.**
**23.40. НІКа.**

### 30 ТРАЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ

**11.45. Дзівосны свет. Пра старажытных рудакопаў.**
**12.15. «Заспявайце песню разам з намі». Канцэрт калектываў рэспубліканскай дырэкцыі эстраднага і цыркавога мастацтва.**
**17.30. Студыя «Тэлесябрына». Сустрэча з вучнямі і выкладчыкамі беларускага гуманітарнага ліцэя.**
**19.05. Сустрэча для вас. Працяг размовы з Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь В. І. Шаладонавым. Прамая лінія.**
**20.00. Панарама.**

## *Афарызмы*

*Мітар Мітравіч*

**Рэжым, які ўсталёўваюць астрожнікі, немагчымы без астрогаў.**

**У глухую пару вушы не дапамагаюць.**

**Калі ў вас язык спраўнейшы за розум, нашто галава.**

**З кожным днём усё лепей, аднак і гэта вытрываць трэба!**

**Многага нам не хапае, але і таго, што ёсць, бракуе.**

**Чаўны іхнія патанулі, а яны і далей вяслуюць — локцямі.**

**Верыце вачам сваім, а ці напраўду бачылі?**

**Як ачысціць краіну ад злодзеяў, калі і мётлы купляем за валюту?**

***Пераклаў з сербскахарвацкай мовы Іван ЧАРОТА.***

*Пародыі*

## Хіцер Зміцер

*Міхась СКОБЛА*

*Патухлі рэдкія агні,*
*Няма дзе сэрцу прытуліцца...*
*Жытло былога старшыні.*
*Гарыць святло. Рыпяць масніцы.*

**Пачатак паэмы З. Марозава «Суд сярод ночы».**

*Мінула ноч. Займаецца світанне.*
*І будзяць пеўні соннае сяло,*
*А ў старшыні калгаса «Шлях змагання»*
*Даўно гарыць бяссоннае святло.*

**Пачатак паэмы З. Марозава «Напярэдадні».**

Не крокам чарапахі або гнома
Я да вяршынь паэзіі брыду —
Махаючы дыпломам агранома,
Бягу, ажно — язык на бараду!
Марнеў бы я ў калгасе пры саветах,
Вазіў бы гной ці з бульбаю мяхі...
А сёння я ў паэмах і санетах
За ўсіх старшынь адмольваю грахі.
Грашылі ўсе. Праследуючы схізму,
Рубілі, як гаворыцца, з пляча.
«Бальшавікі», «Шляхі да камунізму»
І ўсе, як ёсць, «Заветы Ільіча».
Сяджу на небе ў праведнай канторы,
Суджу старшынь, як спраўны адвакат.
Няхай не падначаліцца каторы —
У пекле распыляцьме хімікат...
Падобныя старшыні, як блізняты,
Ну хоць бы чым запомніўся які.
Пішчаць, за чуб Фемідаю узяты,
«Кастрычнікі», «Прагрэсы», «Маякі».
Старшыняў шмат, і лёс іх, скажам шчыра,
Напісаны віламі на вадзе...
Брынчыць мая спалоханая ліра,
Пачуўшы грозны вокліч «Суд ідзе!».
Не зразумець ёй, гэтакай блюзнершы,
Што я не разгублюся анідзе —
Калі судзіць надумаюць за вершы,
То ўлічаць маю працу у судзе!



Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
**Індэкс 63865.**

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8505 паасобнікаў.

**Зак. 273.**

**Падпісана ў друк 24.05.1993 г. у 15 гадзін.**

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.